Выкарыстаны фотаздымкі
сямейных альбомаў Міхаіла Марыніча і ByMedia.Net.

**Тамковіч, А. Л.**
«Няскораны Міхаіл Марыніч. Гісторыя ў фота»/ А. Л. Тамковіч. — 2015. — 268 с.

Першая частка назвы «Няскораны Міхаіл Марыніч» — з майго нарыса ў газеце «Новы час», які быў надрукаваны 3 лютага 2012 года, а другая — «Гісторыя ў фота» — дадалася падчас работы над гэтай кнігай і цалкам супадае з яе зместам.

На жаль, 17 кастрычніка 2014 года Міхаіла Апанасавіча Марыніча не стала. Ён не паспеў убачыць гэтую кнігу, але паспеў пражыць жыццё, вартае таго, каб пра яго ведалі іншыя.

# Аўтарскі пралог

«У жыцці здараюцца моманты, калі чалавек пачынае пераасэнсоўваць сваё жыццё, быццам бы гартаць старонкі напісанай ужо кнігі. Гэта дае сілы і энергію чалавеку ісці па жыцці далей. Кнігу жыцця хочацца чытаць не ў адзіноце, а з нашчадкамі, але часам гэта немагчыма. Так здарылася і са мной за кратамі».

Гэты ліст свайму сярэдняму сыну Паўлу Міхаіл Марыніч напісаў з Аршанскай калоніі №8.

Прапануемая вашай увазе кніга — разгорнуты варыянт гэтага ліста, які накіраваны ўсім нам.

Першапачаткова яна пісалася да 75-годдзя Міхаіла Апанасавіча, але, калі кніга была амаль гатова, герой раптоўна пайшоў з жыцця і аўтару прыйшлося ўнесці пэўныя змены, каб ператварыць звычайныя ўспаміны ў рэквіем.

Аднак змены былі толькі «касметычнымі», бо, на мой погляд, перад намі той выпадак, калі гісторыя жыцця аднаго чалавека амаль супадае з гісторыяй цэлай краіны. Гэта першае.

Другое ў тым, што дабіцца ў жыцці нечага значнага можа толькі той, хто ўмее пераадольваць цяжкасці. І вучыцца — настойліва, мэтанакіравана і, як кажуць паэты, натхнёна.

Трэцяе. М. А. Марынічу было што страчваць. Не хачу нечым пакрыўдзіць астатніх, але, па майму прынцыповаму перакананню, шчырай павагі заслугоўваюць перш за ўсё тыя людзі, якія дзеля агульных мэтаў адмаўляюцца ад рэчаў асабістых, вельмі прывабных, як то кар'ера, багацце, дабрабыт. І галоўнае — здароўе.

Нягледзячы на вялікую колькасць фота, я наўмысна не дапамагаў (калі не было патрэбы) знайсці там героя гэтай кнігі. Пакіну гэтую радасць чытачам. Адзначу толькі, што ва ўсе часы Міхаіл Апанасавіч Марыніч быў вельмі пазнавальным. Нават калі яго называлі проста Мішам.

І яшчэ. Напэўна, гэтая кніга не адбылася б без самаахвярнай дапамогі сваякоў і шматлікіх сяброў Міхаіла Апанасавіча. Шчыры ім аўтарскі — ДЗЯКУЙ!

# Сустрэча першая: **жыццёвыя дэбюты**

«Сэнс гэтага свята вельмі цяжка патлумачыць іншаземцам. Я нарадзіўся на стары Новы год, то бок 13 студзеня 1940 года ў вёсцы Старыя Галоўчыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці.

Нашы карані з маляўнічай палескай глыбінкі. Земляное (у нас іх так называюць) балота запомнілася з самага дзяцінства. Зімой яно, натуральна, замярзала, што было для ўсіх вельмі добра: у жыхароў розных вёсак з'яўлялася магчымасць пабачыць сваіх суседзяў і родных.

Напрыклад, з нашых Старых Галоўчыцаў да Сасноўкі і Слабады, якія стаяць на рацэ Арэса, 10 кіламетраў напрасткі. Гэта калі ўсё замерзла. У іншую пару года падобны маршрут быў немагчымы — выратоўвалі выспы. Рабілі спецыяльныя дарогі-грэблі, іх ад выспы да выспы масцілі бярвеннем. У такім рашэнні атрымлівалася 25-30 кіламетраў.

Дні народзінаў у вёсках тады ніхто не святкаваў. Не было такіх магчымасцей, бо людзі жылі аднолькава бедна. Пра свой дзень народзінаў я ўспамінаў толькі калі пра гэта нагадвала школьная настаўніца. Па-сапраўднаму дзень народзінаў я пачаў адзначаць у сталым ўзросце.

Святы ў дзяцей былі іншымі. Пераважна звязаныя з рэлігіяй альбо тыя, якія прынесла Савецкая ўлада.

Сапраўдным святам для нас было звычайнае шыццё новага адзення. Кажуха, напрыклад. Для гэтага часцей за ўсё выкарыстоўваліся скуры хатніх жывёл. Спачатку іх самастойна выраблялі з дапамогай дубовай кары, сушылі на гарышчах. Потым везлі ў горад шыць, бо ў хатніх умовах гэта было немагчыма — патрэбныя вельмі моцныя машыны і вельмі трывалыя іголкі.

Мне чамусьці больш за ўсё запомніліся паездкі ў Бабруйск. Бацька браў мяне з сабой. У горадзе можна было паесці марозіва альбо смачных булачак.

Магазінных цацак у сялянскіх дзяцей не было. Іх рабілі самі. Лепш за іншае атрымліваліся свісткі з лазы. Апроч таго мой бацька майстраваў розныя самалёты, верталёты, драўляную зброю. З усім гэтым дзеці і гулялі.

На нашай выспе было 15 двароў. І называлі гэта месца — Сяльцо. Мы жылі на самым ускрайку. Ад асноўнага паселішча аддзяляла маленькае балота, усяго кіламетр працягласці. Да слова, балоты пачалі асушаць толькі ў 1960 годзе.

У часы вайны яны адыгрывалі вельмі істотную ролю. Людзі хаваліся там ад ворагаў. Да таго ж дабрацца да нас немцам паспяхова перашкаджала дрыгва.

Калі пачалася вайна, мне было толькі паўтары гады. Таму з эпізодаў вайны памятаю толькі два.

На ўсё жыццё запомнілася, як немцы праводзілі нейкую карную аперацыю, а мы схаваліся ў балоце. Я адразу наткнуўся позіркам на нейкі дзіцячы плашчык. Напэўна, там нехта хаваўся да нас. Той плашчык па на наш дзень стаіць перад вачыма. І свіст куль над галавой — ціў-ціў-ціў.

А яшчэ памятаю, як нашы маці гатавалі ў вялікіх катлах ежу. Жылі мы тады ў лесе ў зямлянках, так званых куранях. Дзеці збіралі для вогнішч дровы. Аднойчы мне не пашанцавала — абварыўся. Шрам застаўся на ўсё жыццё.

Усё астатняе, што адбывалася ў часы вайны, я ведаю са слоў маці, Таццяны Мікалаеўны, і бацькі, Апанаса Сцяпанавіча.

Менавіта з імі звязаны і адзін з першых здымкаў у маім жыцці.

Да нашых суседзяў Ракіцкіх прыехаў сваяк з Ленінграда. Ён і сфатаграфаваў.



З маці і бацькам


Са стрыечным братам Мішам

А крыху раней быў зроблены здымак з маім стрыечным братам і сябрам Мішам.

Уся наша сям'я панесла страты ад вайны. Маю бабулю, то бок маміну маці, немцы забралі ў 1941 годзе на працу ў Германію. Яе лёс невядомы і зараз.

Бацьку прызвалі на фронт у самым пачатку вайны. Ён ваяваў у коннай арміі Будзёнага. Пад Масквой іх атрад акружылі і ўзялі ў палон. Разам з сябрамі бацька збег і накіраваўся да сваіх родных мясцін. Ішоў па начах, а калі было відно, хаваўся ў лесе. Дабіраўся каля двух месяцаў. Спачатку ў дом не заходзіў, баяўся, бо ў любы момант туды маглі прыйсці немцы.

У студзені 1942 года ён выйшаў на сувязь з партызанамі і ў іх шэрагах змагаўся да самага вызвалення.

Наш Капаткевіцкі (зараз Петрыкаўскі) раён вызвалілі напрыканцы 1943 года, а пасля вызвалення ўсёй Беларусі бацьку зноў прызвалі ў армію. Пехацінцам.

Пад Варшавай у 1944 годзе яго цяжка паранілa.

Далей былі выключна шпіталі. Вайна ўжо скончылася, а ён прыехаў дадому толькі восенню 1945 года.

Дарэчы, гэтая вайна была другая па ліку, калі бацьку прызывалі ў войска. Зусім маладым ён ваяваў яшчэ ў фінскую вайну. Вярнуўся адтуль моцна расчараваным. Як гаворыцца, адчуў на сабе, што савецкая прапаганда цалкам не адпавядае рэчаіснасці: зіма, мароз, а ў савецкіх салдат не было нават цёплых кажухоў. У адрозненне ад добра экіпіраваных фінскіх снайпераў...

У 1948 годзе я пайшоў у школу. Спачатку школа-чатырохгодка, якая была ў нашай вёсцы. Потым прыйшлося хадзіць за паўтара кіламетры ў Новыя Галоўчыцы, дзе школа была ўжо сямігадовай. А скончыў вучобу я ў Навасёлках. Калі зімой мы хадзілі туды напрамкі пяць-шэсць кіламетраў, то ў абход было ўсіх дзесяць.



Школьны клас

«Бібліятэка» ў падлеткаў была агульнай. У тым сэнсе, што калі некаму шанцавала знайсці цікавую (дакладней — любую) кнігу, мы яе вельмі хутка прачытвалі і перадавалі адзін аднаму.

Калі пачалася меліярацыя, усё лета дзеці працавалі памочнікамі трактарыстаў. Пасля асушэння балот аралі там зямлю. Звычайна дарослыя трактарысты адпачывалі, а мы — «пахали». Так што дзедаўшчына была не толькі ў арміі...

Аднойчы познім вечарам (ужо было цёмна) з маім сваяком і сябрам Мішам Мажарам, які таксама быў памочнікам трактарыста, мы выпадкова загналі свае трактары ў балота. Ледзь выцягнулі адзін аднаго. Прамучыліся амаль усю ноч.

Я прыйшоў дадому літаральна за гадзіну да новага пад'ёму, і маці не змагла мяне зноў пабудзіць. Праспаў цэлыя суткі.

Ведаю, што да меліярацыі ёсць розныя адносіны. Адны лічаць яе неабходнай, другія выказваюцца катэгарычна супраць. Не хачу ні з кім спрачацца, скажу толькі, што калі чалавек неразумна ўмешваецца ў прыроду, наступствы могуць быць вельмі драматычнымі.

Асушэнне ў нас балот стала прычынай таго, што сухі торф загараўся нават ад маланкі. Падобнае здарылася, калі я ўжо вучыўся ў Мінску.

З балот агонь хутка перакінуўся на жытло людзей. Згарэла амаль палова вёскі Новыя Галоўчыцы, ў тым ліку і школа, дзе я некалі вучыўся.

Апроч работ на меліярацыі, дзеці зараблялі грошы таксама тым, што здавалі сушаную кару лазы. У мяне, напрыклад, атрымалася накапіць на веласіпед. Ездзіў на ім у дзевятым і дзесятым класе. Але гэта было магчыма толькі да маразоў, потым — альбо пехам ўздоўж разбуранай чыгункі, альбо на лыжах.

Першыя гады я вучыўся не вельмі добра. Хацелася пагуляць. «Дзеці прыроды» ўсё ж такі.

Памятаю, зімой мы «ганялі» па лёдзе кіламетраў сорак. Завадскія «Снегурочки» купіць у магазіне маглі далёка не ўсе, таму майстравалі канькі самі. Спачатку выразалі драўляную калодку па памерах ступні, а потым на яе для добрага слізгання набівалі палазы са стальнога дроту.

Час ад часу (каб кожны дзень не хадзіць туды-сюды) здымалі ў Навасёлках кватэры. Там жылі па некалькі тыдняў запар. Многім гэта было не па кішэні , бацькі не маглі дапамагчы сваім дзецям.

Да таго ж некаторыя з іх не разумелі, навошта гэта патрэбна ўвогуле. Напрыклад, мая маці. У мяне вельмі добра атрымлівалася дапамагаць бацьку сталярнічаць, і яна бачыла свайго сына толькі ў такой якасці. Якая тут можа быць вучоба...

Жылі людзі тады так: бацькі на рабоце, а ўся гаспадарка — на дзецях. Накорміш курэй, гусей, свіней, і на вучобу ўжо не застаецца часу.

Паўтаруся, вакол вёскі — адны балоты. Пастаянна прыходзілі ваўкі і ганяліся за хатняй жывёлай, таму трэба было заўсёды быць пільным. Сачыць за наваколлем і перашкаджаць шэрым рабаўнікам.


Лыжнік

Ваўкоў адганялі амаль кожны дзень. Сваім выццём яны вымушалі спужаную жывёлу (барана альбо свінню) бегчы на балота і там, калі нам не выпадала выратаваць яе крыкамі, камянямі альбо палкамі, з'ядалі. Было даволі страшна, але, дзякуй Богу, на людзей яны амаль ніколі не нападалі.

Была і небяспека з неба. Каршуны. Яны сачылі за курамі, мы — за імі.

Займаліся гэтым толькі дзеці.

Не была выключэннем і нашая сям'я. Прыходзілася літаральна адрываць ад хатняй гаспадаркі час на вучобу. Тым больш што бацька мой быў інвалідам першай групы, а гэта амаль не дазваляла яму працаваць фізічна.

Наша хатняя гаспадарка была даволі вялікай. Акрамя свіней і птушак трымалі мінімум дзвюх кароў і цяля на мяса.

Дарэчы, неўзабаве бацьку абралі старшынёй сельсавета, бо ў яго было сем класаў адукацыі. Для тых часоў — вельмі сур'ёзна.

Наш калгас называўся «Шлях Леніна». Калі меліярацыя дазволіла наладзіць больш трывалыя камунікацыі, калгас стаў саўгасам. У яго аб'ядналі адразу некалькі вёсак — Старыя і Новыя Галоўчыцы, Навасёлкі, Камаровічы.

Дырэктарам прызначылі надзвычай паважанага сярод сялян Парахневіча. Спецыялізаваўся саўгас на жывёлагадоўлі і вырошчванні збожжа.

Мне было ВЕЛЬМІ цікава вучыцца. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, ніколі не прапускаў заняткі. Я адзін з тых нямногіх, хто скончыў сярэднюю школу.


**Брат Аляксей**

Падчас вучобы больш за ўсё падабаліся гісторыя, геаграфія і фізіка. Спалучэнне не зусім звычайнае, але, думаю, прычынай тых сімпатый былі настаўнікі. Сапраўдныя прафесіяналы сваёй справы. Мы слухалі іх, разявіўшы рот.

Яшчэ памятаю, што ў дзіцячыя гады захапляўся кнігай латышскага пісьменніка Віліса Лацыса «Сын рыбака». Ніхто тады нават уявіць не мог, што праз паўстагоддзя лёс зробіць мяне беларускім паслом менавіта ў Латвіі.

Старэйшы брат Аляксей з 1929 года нараджэння. У вайну ўжо быў падлеткам. Час ад часу бацька браў яго з сабой у партызанскі атрад. У адным баі з фашыстамі Лёшу моцна паранілі. Ён застаўся без кісці правай рукі і нанова вучыўся пісаць левай.

Пасля вайны скончыў Калінкавіцкі ветэрынарны тэхнікум. Ажаніўся, нарадзілася дачка Тамара. Але доўга яму жыць не давялося. У 1965 годзе ён, на жаль, памёр.

Запомнілася, як будавалі наш новы дом.

Да гэтага моманту мы ўсе разам жылі ў тым, які паставілі яшчэ бацькі маёй маці. Калі брат ажаніўся, стала зразумела, што гэтага жытла будзе мала.

Вельмі добра памятаю, як мы з бацькам ездзілі ў Гомельскае лясніцтва, а потым у лесе пазначалі дрэвы, якія будзем секчы.

На будоўлі дапамагалі ўсе суседзі і сваякі, бо бацька з Аляксеем (яшчэ раз адзначу) былі інвалідамі і не маглі высока падымаць бярвенні.

А мая функцыя была — хутка з дубовых ствалоў здымаць кару, каб потым яны не рабіліся сінімі і не гнілі.

Пабудавалі вялікі прыгожы дом. Адну палавіну — братавай сям'і, другую — нам.

Самі рабілі не толькі жытло, але і тканіны. У вёсках па наш дзень захаваліся саматканыя посцілкі і навалачкі тых часоў. Кожную восень наладжвалі кросны, куплялі фарбы, адбівалі лён і каноплі ад кастры. З валокнаў рабілі ніткі, потым восенню і зімой жанчыны выраблялі тканіны, а пасля шылі з іх адзенне і бялізну.

Звычайна, перад тым як пачаць гэтую работу, маці раілася з суседзямі. «Асартымент» дзялілі між сабой загадзя. Адны ткалі абрусы, другія ручнікі, навалачкі, прасціны і г.д., а потым абменьваліся.

Усе сяляне тады хадзілі толькі ў самаробным. Цэлая вытворчасць атрымлівалася. Нават цяжка паверыць, што ўсё гэта было зусім нядаўна...

Першы касцюм я набыў толькі як стаў студэнтам.

І ўвогуле людзі ў той час ставіліся адзін да аднаго не так, як зараз. Былі больш добрымі і шчырымі. Замкоў на хатах фактычна не было.

Абавязкова дапамагалі іншым саджаць і капаць бульбу. У нашых мясцінах замест коней часцей за ўсё выкарыстоўвалі валоў, то бок быкоў. Яны былі значна танней за коней. Хадзіць у плузе іх прывучалі яшчэ цялятамі.

Ягады і грыбы мы збіралі «цэнтралізавана», па чарзе. Справа ў тым, што ад нашай хаты да лесу, дзе яны раслі, было 15-20 кіламетраў. Часта не находзішся.

Рабілі так. Дырэктар саўгаса выдзяляў для канкрэтнай сям'і (а то і цэлай вёскі) пэўны дзень, і ўсе, ад мала да вяліка, ехалі «на зборы». Бралі з сабой ваду, малако, ежу, нейкае адзенне, пустыя вёдры, кашы.

Грыбы не шукалі, а збіралі. Потым людзі вакол хаты сцялілі тканіну і на сонцы сушылі баравікі. Ніхто ні ў каго нічога не краў.

Вакол было шмат копанак, то бок невялікіх сажалак. У іх вадзілася процьма рыбы. Лавілі яе нават зімой, вялікімі кашамі з-пад лёду. Салілі і сушылі. Смаката!

Калі адбывалася вяселле, рыхтаваліся да яго ўсёй раднёй. Гатавалі розныя стравы, гналі самагонку. Цікава, што ў лесе стаялі спецыяльныя «агульныя» апараты. Самагонку гналі па чарзе і толькі для падобных мэтаў альбо на вялікія святы.

Пілі яе даволі мала, на вяселлях больш спявалі, танчылі пад гармонік, а патэнцыйных дэбашыраў і скандалістаў туды проста не клікалі. Запрашалі толькі тых, у кім былі ўпэўненыя на сто адсоткаў.

Размаўлялі паміж сабой на «трасянцы», а школы былі выключна беларускімі.

Яшчэ з дзіцячых гадоў у мяне захавалася любоў да кукурузы. Маці рабіла з яе вельмі смачную кашу накшталт мамалыгі. Калі мне потым выпадала пакаштаваць за мяжой прыгатаваныя з кукурузы стравы, заўсёды з задавальненнем гэта рабіў.

Пасля школы была спроба паступіць у Чарнігаўскае вышэйшае ваеннае лётнае вучылішча. Але за некалькі месяцаў да гэтага я цяжка захварэў на вочы, таму стаць абітурыентам не атрымалася. Зрок ужо быў моцна пашкоджаны.

Шчыра кажучы, унутрана я быў рады таму, што размеркаванне ваенкамата не здзейснілася, бо ў мяне ніколі не было жадання стаць вайскоўцам. Тым больш, што бацька жадаў, каб я паступаў у Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту (БІЧТ), які знаходзіцца ў Гомелі і які зараз стаў універсітэтам.

Гэта я і ажыццявіў у будучым, але не з першага разу.

У 1958 годзе паспрабаваў паступіць у БІЧТ, аднак з-за медыцынскіх патрабаванняў не змог. На гэтым імкненне атрымаць адукацыю і жаданне вучыцца далей не знікла. Вяртацца ў вёску не хацелася.

Вырашыў пайсці ў школу фабрычна-заводскага навучання, якая спецыялізавалася на будаўніцтве. Яна так і называлася — будаўнічая школа № 12 (цяпер гэта Гомельскі дзяржаўны прафесійны ліцэй будаўнікоў). Менавіта там я атрымаў сваю першую прафесію — слесара-сантэхніка.

Аднак і там медкамісіі было не мінуць. Пайшоў на хітрыкі: за мяне яе праходзіў адзін з сяброў. На шчасце, ніхто гэтага не заўважыў.

У ФЗН добра вучылі.

Наша школа заключала дагаворы з рознымі будаўнічымі арганізацыямі, дзе вучні потым праходзілі практыку і пачыналі працаваць пасля выпуску. Пераважна гэта было маторвагоннае дэпо.



Уніформа ФЗН



Сур'ёзны вучань

Праз некаторы час я ўсё ж такі пачаў вучыцца на вячэрнім факультэце БІІЧТ. Потым перавёўся на дзённае аддзяленне. Падчас тамтэйшай вучобы мне, як аднаму з лепшых студэнтаў, залічылі ўсё тое, што было ўжо здадзена раней.



Неўзабаве і ўвогуле з Гомеля перабраўся ў Мінск. Таксама ў палітэх, толькі ўжо без чыгуначнай спецыялізацыі.

Усе гомельскія экзамены і залікі ў сталіцы таксама залічылі без асаблівых праблем.





Сталічны студэнт

Факультэт у нас быў будаўнічы, а канкрэтнай спецыялізацыяй стала «Ацяпленне, гарачае і халоднае водазабеспячэнне, вентыляцыя, газазабеспячэнне». Як бачна, яна была даволі шырокай і вельмі важнай для народнай гаспадаркі.

Звычайна ў народзе такіх людзей называюць сантэхнікамі. Нават гумарыст Аркадзь Райкін узгадваў іх «хлеб з маслам».

Дарэчы, у мінскім палітэхнічным мяне амаль адразу запрасілі ў мясцовую веласекцыю. Мабыць, «практыка» школьных гадоў была нядрэннай. Адносіўся да трэніровак вельмі сур'ёзна. На мой станок «пакачаць ногі» нават прыходзілі знакамітыя футбалісты Мустыгін і Малафееў.

Як і ў шмат каго ў гэтым спорце, было нямала завалаў, але адзін запомніўся асабліва — 12 красавіка 1961 года. Гагарын ў гэты дзень паляцеў у космас, а я — на зямлю. Ды так моцна, што нават апынуўся на бальнічным ложку... Шрам на галаве відаць і сёння...

Уваходзіў у зборную палітэха па веласпорту. Прымаў удзел у маскоўскай Спартакіядзе народаў СССР. Бываў на зборах у Ялце. Як кажуць, «прыехаў» да кандыдата ў майстры спорту.

З часам зразумеў, што спорт замінае вучобе. Прыйшлося ад яго адмовіцца.

Амаль адразу пасля пераезду ў Мінск мяне абралі старастам групы. Да гэтага ім быў Слава Мастыга. На жаль, падчас вучобы ён памёр ад белакроўя. Доўга мучыўся бедны... Я некалькі разоў наведваў яго ў бальніцы.

Яго жонка Люда вучылася разам з намі. Пажаніліся яны на першым курсе. Напярэдадні смерці Славы ў іх нарадзілася дачка.

Галоўнае, што запомнілася з вучобы, гэта яе незвычайны графік. Першыя тры курсы мы вучыліся па вечарах, а днём працавалі. Будавалі жылыя дамы ў раёне вуліцы Валгаградскай. Такім было рашэнне міністэрства адукацыі.

Перапынкі былі толькі калі мы ездзілі «на бульбу».

У нашай групе вучыліся хлопцы і дзяўчаты з усяго Савецкага Саюза, што яшчэ раз сведчыць аб высокім узроўні адукацыі ў палітэху тых часоў. Сюды ехалі атрымаць не «корочку», а веды...

На чацвёртым курсе ўсе прадметы сталі «па прафесіі», то бок блізкімі да нашай непасрэднай спецыялізацыі. А потым пачалася праца над дыпломнай работай.

Мая датычылася Брэсцкага электрамеханічнага завода, які толькі планавалі пабудаваць, і складалася з тэксту і больш за дзесятак ватманскіх чарцяжоў.



**Першая «бульба»**

Студэнты ў дыпломных работах пісалі ўсё, што тычылася тамашніх ацяплення і вентыляцыі. А галоўную частку (будаўнічую) ўжо рабілі на іншым факультэце — прамысловага і грамадзянскага будаўніцтва.

У пэўным сэнсе мы былі для калегаў як бы субпадрадчыкамі, выконвалі так званыя «спадарожныя работы».

Наколькі я ведаю, тыя напрацоўкі потым улічвалі пры рэальным будаўніцтве.

Асобна хачу сказаць пра нашу ваенную кафедру. Падрыхтоўка там была вельмі грунтоўнай. Кафедра пастаянна ўдзельнічала ў розных ваенных зборах.

Калі не памыляюся, пасля трэцяга года навучання у нас былі самыя працяглыя курсы — афіцэрскія. Зладзілі іх на базе ваенна-палітычнага вучылішча, якое зараз стала акадэміяй.

Былі там не толькі беларускія студэнты, а таксама хлопцы з Расіі, Малдовы, Украіны, прыбалтыйскіх рэспублік. Запрасілі туды і шмат старшынь мясцовых Саветаў. Напэўна, каб паказаць, што наша ўлада здольная змагацца і з войскамі НАТА.

Словам, курсы былі вельмі элітнымі.

Апранулі ў новую ваенную форму, навучылі страляць з усіх відаў стралковай зброі — пісталет, аўтамат, кулямёт і нават гранатамёт. Навучылі вадзіць танкі і баявыя машыны пяхоты. Здавалі не толькі кіраванне гэтай тэхнікай, але і стральбу з яе.

Усім вельмі спадабалася.





**Афіцэр запасу**



Пройдзе шмат год, і ваенную форму надзене мой старэйшы сын Ігар, і мы разам з жонкай Людмілай і сынам Паўлам прыедзем да яго на прысягу.

Але закончыць успаміны пра тыя часы мне б хацелася зусім не «колерам хакі», бо прафесія ў нас была самая што ні на ёсць мірная — будаўніцтва.



Пасля прысягі



Тыя, хто вучыў

1964 год. Выпуск. Два самыя першыя фота «дзембельскага» альбома групы № 100. На адным — нашы выкладчыкі, на другім — будучыя інжынеры. Як староста, я ў самым цэнтры.

Пасля заканчэння палітэха даволі хутка адчуў, што нечага не хапае яшчэ, і паступіў у аспіран-



Тыя, хто вучыўся

туру інстытута народнай гаспадаркі. Праўда, закончыў яе толькі ў 1996 годзе. Катастрафічна не хапала часу. Назва кандыдацкай дысертацыі «Рэгуляванне знешнеэканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь (стан, праблемы і шляхі ўдасканальвання)».

Аналізуючы дадзены этап жыцця, я ўсведамляю, што ўсе гады вучобы для мяне праходзілі не дзякуючы абставінам і шансам, а насуперак складанасцям: хваробы, цяжкае жыццё сям'і пасля вайны, адсутнасць часу для адукацыі, аддегласць школы, інстытутаў і іншае. Але была мэта — вучыцца, і я яе дасягнуў.

Як і ўсе людзі, я ўспамінаю перыяд свайго дзяцінства і юнацтва з добрым сумам і ўзгадваю радкі адной папулярнай песні — няма таго, што раньш было».

**Тут прайшло дзяцінства**



# Сустрэча другая: **афганская камандзіроўка**

«З першай жонкай Людмілай мы пазнаёміліся яшчэ падчас вучобы ў палітэху. Яна прыехала з Крыма і вучылася на іншым курсе. Неўзабаве пажаніліся. Хутка нарадзіўся (26 жніўня 1967 года) сын Ігар і ў наступным годзе паехаў з намі ў камандзіроўку ў Афганістан. Без сям'і туды не пускалі — абавязковая ўмова.



**З жонкай Людмілай і сынам Ігарам**

Была і яшчэ адна ўмова.

Займаючы кіраўнічую пасаду, я заставаўся беспартыйным. У той час працаваць інжынерам і быць беспартыйным — рэдкасць. Я доўга не бачыў сэнсу ва ўступленні ў партыю, але потым акалічнасці прымусілі.

І назва тых акалічнасцяў — Афганістан. Начальнікамі там былі толькі камуністы. Тэрміны пачатку камандзіроўкі «прыцiскалі», таму партыйцам я стаў без кандыдацкага стажу. Як кажуць, «у парадку выключэння».

Мой першы выезд за мяжу адбыўся ў 1968 годзе. Зараз іх так шмат, што складана нават палічыць. Прынамсі, не ў аднаго мяне.

Сучаснай моладзі цяжка патлумачыць, што былі часы, калі звычайная паездка за мяжу лічылася адной з самых галоўных падзей жыцця. Ды і пра «жалезную заслону» яны маюць даволі абстрактнае ўяўленне.

Дарэчы, калі мы паехалі ў Афганістан, у мінскую кватэру на Чкалава са Старых Галоўчыцаў пераехала мая маці. Прыглядвала за жытлом.

Яна нарадзілася ў 1903 годзе і пайшла з жыцця ў лютым 1989-га, а бацькі і брата не стала значна раней.

...Канец 60-х гадоў мінулага стагоддзя. У Афганістане тады было цалкам бяспечна. Настолькі, што да нас спакойна прыязджалі першая жанчына-касманаўт Валянціна Церашкова і тагачасны прэм'ер Савецкага Саюза Аляксей Касыгін.

Больш за тое, афганцы ставіліся да мяне так прыязна, што калі тэрмін двухгадовага кантракту скончыўся, яны звярнуліся да нашага кіраўніцтва з просьбай працягнуць яго яшчэ на год. Так і атрымалася.

Прыехаў я туды якраз напярэдадні травеньскіх святаў. Да Тэрмеза ехалі цягніком, потым да Кушкі машынамі, а там цераз памежную Сырдар'ю — кацерам. На мяжы нас ужо чакалі савецкія дыпламаты і на джыпах павезлі ў Пулі-Хумры.

Будаўніцтва дарогі Мазары-Шарыф — Пулі-Хумры — Кабул курыраваў асабіста апошні афганскі кароль Мухамед Захір-шах. Ён нават прыязджаў на будаўнічыя аб'екты. У маім жыцці гэта была першая сустрэча такога ўзроўню.

На той момант я ўжо актыўна займаўся аматарскім фота, якое потым стала хобі на ўсё жыццё, таму «афганскіх» здымкаў у маіх альбомах вельмі шмат.

Фотаапарат «ФЭД» я купіў яшчэ ў Савецкім Саюзе. Як і ўсе прылады для таго, каб самастойна рабіць фатаграфіі. Гэта цяпер усё проста. Лічбавае фота дазваляе кожнаму ўяўляць сябе амаль што майстрам, а да нядаўняга часу нічога падобнага не было і блізка. Чырвонае святло, фотапавелічальнік, рэактывы і г.д. Плюс цярпенне... Плюс нейкі талент, бо па-сапраўднаму рабіць гэтую справу можа той, хто не толькі глядзіць, але і здольны БАЧЫЦЬ.

Пачаў здымаць яшчэ ў Савецкім Саюзе, але грунтоўна асвоіў гэтую справу толькі ў Афганістане. Як і работу з кінакамерай. Здымаў ёю вельмі шмат. Па гэты дзень захаваліся непраяўленыя тады кінастужкі.

Звычайна працаваў адначасова і камерай, і фотаапаратам. Самае запамінальнае — прыезд афганскага караля.

Рызыковае хобі





Кароль ідзе першым



Дасьтупны кароль

Спачатку я здымаў яго з крышы аўтобуса, што і засталося на фота аднаго з сяброў.

А потым атрымалася падабрацца да караля бліжэй.

А потым і зусім блізка.

Захапленне фатаграфіяй стала такім моцным, што я нават адважыўся прыняць удзел у конкурсе, які быў арганізаваны савецкай амбасадай. І нават перамог са здымкам, які можна ўбачыць і зараз.



**Пераможны здымак**

Дарэчы, перад той камандзіроўкай для нас у Маскве былі арганізаваны паўгадавыя курсы па вывучэнню фарсі. Зразумела, што якім бы ні быў узровень навучання, за такі кароткі тэрмін дасканала вывучыць іншаземную мову немагчыма, таму дапамагалі мясцовыя перакладчыкі. У нас, напрыклад, быў таджык, якога ўсе звалі Міша.

Моўныя курсы арганізавала Міністэрства транспарту і будаўніцтва СССР. Выкладчыкі прыязджалі прама ў наш будынак. А слухачоў тых курсаў было ўсяго тры... Такую раскошу маглі дазволіць сабе толькі вельмі багатыя...

Пазней менавіта гэта міністэрства будзе адказваць за будаўніцтва Байкала-Амурскай магістралі (БАМ), а кіраваў ім тады пляменнік Першага сакратара ЦК КПСС Брэжнева.

Сем'ям савецкіх спецыялістаў мясцовыя ўлады ў якасці жытла выдзелілі асобныя дамы. Куды б нехта з нас ні ішоў, пастаянна ахоўвалі салдаты, хаця, паўтаруся, на той час ніякай патрэбы ў гэтым не было. Яны не проста ахоўвалі, а ў любых сітуацыях ахвотна дапамагалі. Напрыклад, купляць жанчынам прадукты.

Гэта было вельмі карысна, бо, як вядома, у мусульманскіх краінах жанчыну амаль усюды павінен суправаджаць мужчына.



**Мясцовы каларыт**

Што вельмі важна, ў нашых дамах увесь час працаваў душ. З вадой там пастаянная праблема. Плюс жудасная спёка і татальная пагроза здароўю.

Арыкі (арашальныя каналы) там выкарыстоўваюць і ў якасці лазняў, і як пральні. Антысанітарыя страшэнная...

Дзякуй Богу, нічым (накшталт жаўтухі) я не хварэў. Напэўна, дапамаглі зробленыя перад паездкай прышчэпкі.

За тры гады майго знаходжання ў Афганістане там не было ніводнага дажджу.

У вольны час у тамтэйшых горных рэчках мы лавілі рыбу, пераважна фарэль. Акрамя гэтага гулялі ў валейбол. Узровень быў даволі высокім, таму што сярод кантрактнікаў аказалась шмат тых, хто літаральна «забіваў цвікі». Сведка гэтаму — мой вывіхнуты палец.

Мясцовага тэлебачання там не было, толькі кабульскае. Цалкам незразумелае, таму мы самі зрабілі тэлевышку. З вялікімі цяжкасцямі яе паставілі і пачалі глядзець савецкае тэлебачанне. Так сказаць — «забяспечылі вольны час». На жаль, самаробную ўстаноўку не замацавалі як след, і праз пэўны час яна паваліліся. Дзякуй Богу, нікога не забіла.

Адначасова адзначу, што ў дамах была ўся неабходная бытавая і іншая тэхніка. З большасці японскай вытворчасці. За дувалам (высокая глінабітная агароджа) жыў гаспадар нашага дома, вельмі багаты малады чалавек. У яго быў свой катэдж, прыгожы, раскошны сад.

Як вядома, Афганістан і зараз называюць адной з галоўных краін-наркавытворцаў свету, а тады гэтага амаль не хавалі. Мой гаспадар «падняўся» менавіта на наркотыках.

Аднойчы ён нават пачаставаў мяне (таксама маладога) мясцовай анашой. Не спадабалася. Кружылася галава, нудзіла, амаль гадзіну адмываўся пад душам ад таго паху. Словам, першы раз стаў і апошнім.

Асобнымі дуваламі была агароджаная ўся тэрыторыя, дзе жылі савецкія спецыялісты. Ахоўвалі нас салдаты, у асноўным пуштуны, таджыкі і ўзбекі.

Калі працяглы час жывеш за мяжой, пачынаеш сумаваць не толькі па блізкіх табе людзях, але і па рэчах. Заўважаеш нават тое, што іншыя могуць успрымаць як нявартую ўвагі дробязь.

Напрыклад, звычайнае малако. Яго няма ў рацыёне афганцаў, таму мне, чалавеку, які (без перабольшванняў) вырас на ім, было вельмі цяжка.

Калі Людміла паехала на сваю радзіму ў Крым нараджаць Паўла, я яе суправаджаў да Душанбе і там літаральна накінуўся на ўсе малочныя прадукты. Быццам ніколі іх не бачыў.

І ўвогуле ў Афганістане ежа была даволі спецыфічнай. У асноўным мучныя ляпёшкі з мясам, нешта падобнае да шаурмы. Іх пяклі ў самаробных падземных печах. Плюс шмат вострых спецыяў, зяляніны, цыбулі. І рэпчатай, і ў пер'ях.


**Знаёмы твар...**

На будаўніцтве ў нас, дарэчы, быў свой кухар. Яго з нейкага ленінградскага рэстарана прыслалі туды па кантракце. Так што на працы мы харчаваліся заўсёды нармальна. Паеўрапейску, то бок...

Апроч гэтага была добрая сталовая і пры савецкай амбасадзе ў Кабуле. Калі туды прыязджалі, заўсёды ў яе заходзілі.

Зразумела, у мусульманскай краіне ніякага алкаголю не выраблялі (сухі закон), але мы там пілі не толькі вадзічку. Масквічы вельмі хутка навучыліся з вінаграду кішміш рабіць віно. Да таго ж па святах з пасольства давалі элітны еўрапейскі алкаголь — віскі, каньяк, джын... За гэтым «спецпайком» адмыслова пасылалі ў Кабул ганцоў.

Начальнікам нашага будаўніцтва быў чалавек з вядомым усім шахматыстам прозвішчам Каспараў. Вельмі, трэба адзначыць, высакакласны спецыяліст.

Наконт будаўніцтва дарогі: ўсё рабілася як мае быць, то бок уключна з прыдарожным сэрвісам. Праўда, было яго там не вельмі многа, таму я адразу выказаў прэтэнзіі Каспараву адносна ўзроўню сваёй загрузкі.

Тым больш што ацяпленне было непатрэбнае ўвогуле, толькі вентыляцыя. Трымаць дзеля гэтага адмысловага спецыяліста — недазвальяльная раскоша, таму я самастойна перакваліфікаваўся на дарожнае будаўніцтва і засвоіў яшчэ адну прафесію.

Мабыць, атрымалася добра, інакш бы гаспадары не папрасілі пакінуць мяне яшчэ на адзін год...


**Пасля мірнага ўзрыву**

Прафесіяналы з Савецкага Саюза працавалі там толькі ў якасці інжынераў, а некваліфікаванай рабочай сілай заўсёды былі мясцовыя жыхары. Часцей за ўсё салдаты.

Пракладваць дарогу ў горнай мясцовасці даволі складана. Амаль заўсёды прыходзілася карыстацца тэхналогіяй будаўнічых узрываў. Пасля аднаго з іх мяне і сфатаграфавалі «для гісторыі».

Праўду кажуць, што са сваімі звычаямі ў чужы «манастыр» не ходзяць, але тое, як у Афганістане складваюцца адносіны паміж «вялікімі начальнікамі» і простымі людзьмі, мяне іншым разам проста шакіравала. Другі менталітэт. У нас такое немагчыма па вызначэнню.

Аднойчы разам з афганцамі ехалі на чарговы аб'ект. Нашу машыну сустрэў губернатар гэтай правінцыі. Не ведаю, па якой прычыне, але яму нешта вельмі не спадабалася. Напэўна, тое, што пасажыры машыны былі размешчаныя, як кажуць, «не па рангу». Побач сядзелі і савецкія спецыялісты, і мясцовыя жыхары.

Губернатар нешта раз'юшана крычаў і нават прымушаў нашых афганскіх спадарожнікаў есці зямлю.

Але гэта (яшчэ раз падкрэсліваю) было толькі ў адносінах да «мясцовых». Да нас ставіліся з незвычайным піетэтам.



Не ведаю, як гэта выглядае зараз, аднак, калі паглядзець старыя фота, цяжка ўстрымацца ад пачуцця гонару. Наздымаў там я вельмі шмат, але прапаную толькі два фота. Спадзяюся, іх будзе дастаткова, каб уявіць, як у Афганістане было прыгожа.



За работу плацілі афганямі. На іх у дуканшчыкаў мы куплялі і якасны мясцовы тэкстыль, і японскую бытавую тэхніку. Акрамя гэтага, у Савецкім Саюзе работу за мяжой аплочвалі так званымі сертыфікатамі.

Пасля той камандзіроўкі я разбагацеў і купіў сваю першую машыну — «Масквіч-412», экспартны варыянт. Гэтым здымкам я і хачу перагарнуць «афганскую» старонку свайго жыцця».



**Першы «руль»**

# Сустрэча трэцяя: кар'ерны баскетбол

«Вернемся крыху назад.

Мая самастойная праца пачалася з практыкі ў так званай Мінскай мантажнай канторы (БУ №379 трэста «Цэнтртрансмантаж»), якая спецыялізавалася на будаўніцтве чыгуначных аб'ектаў. Пасля атрымання дыплома размеркавалі менавіта туды.

Работадаўцы далі мне ў агульнай кватэры асобны пакой.

Спачатку я працаваў майстрам, а праз год стаў начальнікам участку.



**Першыя працоўныя здымкі**



Будавалі не толькі ў Мінску. Даводзілася працаваць на розных аб'ектах у Гомелі, Жлобіне, Оршы, Маскве.

Сваю першую добраўпарадкаваную кватэру я атрымаў у доме, які быў пабудаваны пад маім кіраўніцтвам — Чкалава, 12. Мы там узвялі цэлы квартал. І не толькі для чыгуначнікаў. Да нас далучыліся «авіятары» з 407-га завода. Словам, будавалі для транспартнікаў.

Там я пазнаёміўся з Уладзімірам Ярмошыным, які пасля Рыжскага авіяцыйнага вучылішча прыехаў на будаўніцтва 407-га авіярамонтнага заво-

да. Значна пазней Ярмошын таксама ўзначаліць Мінск. У значнай ступені дзякуючы мне, бо, як мэр сталіцы, паклікаў яго на работу ў гарвыканкам менавіта я.

З Уладзімірам Ярмошыным мы былі сябрамі многія гады. Цанілі адносіны паміж сабою. Але, на жаль, на гэтыя адносіны, як і на стасункі з іншымі людзьмі, паўплывала тое, што адбывалася ў маёй палітычнай кар'еры, — пераход у рэзкую апазіцыю да цяперашняй улады.

Калі пасля афганскай камандзіроўкі я вярнуўся на радзіму, высветлілася, што маё месца занятае. Тады адзін з тагачасных беларускіх міністраў Більдзюкевіч прапанаваў ўзначаліць буйное будаўнічае ўпраўленне (БМУ №4 трэста «Белбудрамонт»), якое спецыялізавалася на ўзвядзенні аб'ектаў прамысловасці па вырабу будаўнічых матэрыялаў і шкла. Маюцца на ўвазе Гомельскі шклозавод, Барысаўскі, «Нёман», цагляныя заводы і г.д.

Накірунак работы быў цалкам новым, таму зноў прыйшлося ўносіць прафесійныя карэктывы.

У чарговы раз пераконваюся, як цесна на гэтым свеце. Гадоў пяць таму мы з тым самым Більдзюкевічам сталі суседзямі па лецішчу. Час ад часу сустракаліся, размаўлялі. А праз пару год ён, на жаль, памёр ад раку.

Пасля Афганістана (і перад ім) мяне не раз запрашалі у Маскву, дзе прапанавалі ўзначаліць вядучы чыгуначна-будаўнічы трэст. Я адмаўляўся. Хацелася працаваць толькі ў Мінску. Тым больш, што мая кар'ера ў Беларусі развівалася вельмі імкліва.

Першы сакратар Мінскага гаркама КПБ Барташэвіч запрасіў на работу ў гарадскую адміністрацыю.

У гэты час узнік новы сталічны раён — Маскоўскі, і мяне абралі (тады іх не прызначалі) спачатку першым намеснікам, а праз год старшынёй райвыканкама. Так у пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя адбыўся яшчэ адзін паварот службовай кар'еры.



**Першы кабінет**



Партыйная трыбуна

Упершыню ў сваім жыцці я адчуў «смак улады». Аднак не ў тым негатыўным сэнсе, які ўвесь час спадарожнічае гэтаму словазлучэнню. Пасада дапамагала лепш разумець механізмы ўлады, давала магчымасць рэальна рабіць патрэбныя ўсім рэчы.

Канешне, перыядычна прыходзілася выступаць на розных партыйных форумах, карыстацца пэўнымі лозунгамі, як гэта можна ўбачыць на здымку, але з большасці мы займаліся не «гаварыльняй», а сапраўднай працай.

Напэўна, тады і пачалі фармавацца мае погляды на жыццё, якія зараз модна называць сацыял-дэмакратычнымі. Калі пачынаюць агулам ганьбіць наша мінулае, я заўсёды з гэтым спрачаюся. Так, у той час было шмат прыкрых з'яў, але цалкам адракацца ад усяго, што было раней, таксама няправільна.



Святочны настрой



Віншуем з Днём настаўніка



Чарговая планёрка

Што б там ні казалі, Савецкая ўлада на маім жыццёвым лёсе пакінула не самы горшы адбітак. Сярод тагачасных кіраўнікоў было нямала тых, хто ўмеў убачыць у людзях пэўны патэнцыял. Па кар'ернай лесвіцы яны цягнулі не толькі «блатных» (іх якраз такі была нязначная меншасць), але і тых, хто ўмеў і хацеў працаваць. Вучылі быць уважлівым, чулым да іншых і прынцыповым, патрабавальным да сябе.

Пачынаючы яшчэ са студэнцкай практыкі, кіраўнікі розных узроўняў ставіліся да мяне надзвычай станоўча. Дапамагалі словам і справай.

Вельмі цёпла ўзгадваю той час. Шмат ідэй. Я багата кантактаваў з простымі людзьмі і вырашаў асабістыя бытавыя праблемы жыхароў раёна. Дарэчы, шмат хто з людзей, якім я дапамагаў, дагэтуль удзячныя і выказваюць сваю падзяку адкрыта.

На вуліцах, у крамах, у іншых публічных месцах мяне пазнаюць, падыходзяць, вітаюцца. Я іх асабіста не ведаю, але вельмі ўдзячны ім за тое, што не змянілі свайго стаўлення пасля таго, як вырашыў сысці з кіруючай пасады.

У 1984 годзе я стаў намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама (слова «мэр» тады не ўжывалі) і адразу атрымаў даручэнне заняцца будаўніцтвам Мінскага метро. Першая ветка сталічнага метрапалітэна была пабудавана пры мне. А за станцыю «Усход» нават атрымаў прэмію Савета Міністраў СССР.

Дакладней, пры мне будаўніцтва было завершана, бо пачыналася яно яшчэ ў 1977 годзе, згодна з адпаведнай пастановай Саўміна СССР. Яго асабіста курыраваў тагачасны першы сакратар ЦК КПБ Пётр Міронавіч Машэраў. Ён жа святочна яго «адчыніў». Аб чым і сведчыць гэты здымак.

Неўзабаве будаўніцтва «замарозілі» — не хапала сродкаў. Да таго ж сам Машэраў трагічна загінуў 4 кастрычніка 1980 года.




**Машэраўскі надпіс**



**«Некабінетная» работа**

Аднавілася будаўніцтва толькі праз некалькі год, 29 чэрвеня 1984 года адбыўся першы VIP-рэйс. На той момант дзейнічалі толькі восем станцый, маршрут быў абмежаваны «Інстытутам культуры» і «Маскоўскай».

«Усход» пабудавалі ў 1986 годзе, а па другой лініі рух пачаўся 30 снежня 1989 года, якраз перад маім прызначэннем на галоўную сталічную пасаду.


**С. С. Шушкевіч — часты госць**

Такая вось храналогія.

Дарэчы, у парламент я прыйшоў як дэпутат, вылучаны менавіта ад будаўнікоў метро. Гэта быў парламент, у якім размаўляць мела сэнс. Не тое, што зараз...

Тады было шмат цікавых палітыкаў, яркіх асобаў, якія сталі лідарамі шмат у якіх сферах. Большасць з іх вядома і дагэтуль — Шушкевіч, Лябедзька, Баршчэўскі, Пазняк, Голубеў, Сасноў, Краўчанка.

Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч заўсёды шчыра цікавіўся, як ідзе будаўніцтва. Быў у нас частым госцем. Асабліва пасля таго, як у жніўні 1991 года ўзначаліў беларускі парламент.

Дарэчы, менавіта падчас кіраўніцтва Шушкевіча мне пашанцавала ў складзе парламенцкай дэлегацыі пабываць у Кітаі. Вось гэты здымак.


**Афіцыйная дэлегацыя**

А першая паездка ў той рэгіён ў мяне адбылася яшчэ ў савецкія часы. Па лініі Беларускага таварыства дружбы з замежнымі краінамі мы ездзілі ў Японію.

Я прыехаў у якасці прадстаўніка мінскай гарадской адміністрацыі, старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Георгій Станіслававіч Таразевіч прадстаўляў заканадаўчую ўладу, а намеснік кіраўніка беларускага ўрада, які потым стаў міністрам гандлю СССР, Кандрат Зыгмундавіч Церах — выканаўчую. З той паездкі гэтыя два здымкі.



**Першая замежная паездка.**
**Злева направа: Таразевіч, Церах, Марыніч**

Між іншым, потым Церах па-сапраўднаму імкнуўся дапамагчы нам з кантактамі ў Расіі. У яго былі добрыя адносіны з Мікалаем Слюньковым, які пасля работы першым сакратаром ЦК КПБ пераехаў працаваць у Маскву, дзе потым пайшоў на пенсію. Сувязі ў таго былі добрыя, з іх дапамогай мы хацелі разбурыць манаполію Лукашэнкі на станоўчыя адносіны расійскага істэблішменту.



**З перакладчыцай і гаспадаром**

На жаль, гэта не атрымалася. Расія зрабіла іншую стаўку.

На мой погляд, менавіта расійскія спецслужбы прывялі да ўлады былога дырэктара дрэннага саўгаса з Магілёўшчыны і менавіта яны зрабілі так, каб Ельцын потым зрабіў на яго стаўку.

Цікава, што пазней Японія стане адным з самых актыўных партнёраў Беларусі, а іх горад Сендай — пабрацімам Мінска.



**Зноў у Японіі**

Мне лёс дасць яшчэ адну магчымасць пабываць у Краіне ўзыходзячага сонца і зрабіць на памяць здымак з адной з мясцовых прыгажунь.

Паралельна з інтэнсіўнай работай у гарвыканкаме працягвалася вучоба. Яшчэ падчас працы ў будаўнічым упраўленні мне прапанавалі паступаць у Маскву ў Інстытут Лацінскай Амерыкі, Азіі і Афрыкі, але я тады адмовіўся.

Пасля вяртання з Афганістана паступіла прапанова пайсці ў мінскі ін'яз, які зараз стаў лінгвістычным універсітэтам. Партыйныя органы (у савецкія часы яны мелі дачыненне да ўсяго на свеце) гэтую прапанову падтрымалі. Аказалася, ў ін'язе ўжо працуюць адпаведныя групы (3-5 чалавек), і я зноў стаў студэнтам. Насамрэч называць нас студэнтамі можна было даволі ўмоўна, бо на працягу трох гадоў англійскую мову вывучалі людзі, якія ўжо займалі немалыя пасады. Напрыклад, са мной вучыўся Мяцельскі, які да Кебіча быў кіраўніком Дзяржплана БССР.


Зноў студэнт

Па сутнасці, гэта быў закрыты клуб, куды пускалі толькі «сваіх». За тры гады вучобы я няблага вывучыў англійскую мову.

Акрамя гэтай была яшчэ адна вучоба. У 1983 годзе я паступіў у Вышэйшую партыйную школу, якую скончыў у 1986 годзе. То бок, кіраваць мяне навучылі задоўга да таго, як пачалі кіраваць «новыя». Як і аднаго з лепшых сяброў тых часоў (сябруем па наш дзень) Сяргея Фокіна.

З першага студзеня 1990 года я ўзначаліў Мінскі гарвыканкам. Лічу сваёй заслугай стварэнне моцнай каманды кіраўнікоў горада: Генадзь Сінкевіч, Ігар Зелянкевіч, Аляксандр Сасноўскі, Уладзімір Ярмошын і іншыя. У будучым гэтыя людзі сталі вядомымі ў краіне кіраўнікамі, членамі ўрада.

Дарэчы, калі ўлада змянілася, яе прадстаўнікі даволі часта раіліся са мной наконт кадравых прызначэнняў, і потым было прыемна бачыць на пасадах тых, каго рэкамендаваў асабіста. Як і тых, з кім прыходзілася разам працаваць у гарвыканкаме.

Час ад часу нас наведваў Міхаіл Мясніковіч, які тады быў адным з намеснікаў тагачаснага прэм'ера Кебіча, пра што сведчыць гэты фотаздымак.


Чарговы прыезд Міхаіла Мясніковіча

У часы развалу Савецкага Саюза была цяжкая эканамічная сітуацыя, людзі масава выходзілі на вуліцу з пратэстамі. Узгадваю важны хвалюючы момант, калі дзесяткі тысяч галодных людзей выйшлі на плошчу. Ні прадстаўнікі ўрада, ні прадстаўнікі парламента не адважыліся выйсці тады да натоўпа.

Вячаслаў Кебіч даверыў гэта мне. Памятаю, што я вельмі моцна хваляваўся, бо разумеў — людзям надзвычай цяжка. Усе мы тады перажывалі лёсавызначальныя перамены, і трэба было даць упэўненасць у тым, што жыццё зменіцца ў лепшы бок.

Адзіным інструментам для гэтага было слова, а не як зараз — дубінкай па галаве і ў аўтазак. Мая задача была размаўляць з людзьмі і пераконваць іх. Сапраўдны досвед публічнай палітыкі потым вельмі дапамог.

Да таго ж асаблівасць пратэстаў была ў тым, што іх ачольвалі кіраўнікі пратэстуючых прадпрыемстваў, якія ў большасці былі настроены дэмакратычна. Наперадзе калон ішлі дырэктары, прафсаюзныя і партыйныя лідары. Міліцыя нікога не чапала. Наадварот — ахоўвала.



**Перад мітынгам**


Дэпутат парламента

Нагадаю, што ў 1990 годзе я быў абраны ў беларускі парламент.

Сярод тагачасных дэпутатаў (у адрозненне ад нашых часоў) вяліся дыскусіі па самых розных пытаннях. Не паказныя, а сапраўдныя. Напрыклад, менавіта па ініцыятыве дэпутатаў ад БНФ было прыпынена будаўніцтва другой лініі Мінскага метрапалітэна, бо яна праходзіла пад гістарычным цэнтрам Мінска.

Аднавіць будаўніцтва ўдалося толькі пасля шматлікіх кансультацый з удзелам Зянона Пазняка і Міністэрства культуры СССР.

Дарэчы, у таго будаўніцтва была яшчэ адна перашкода, вельмі банальная — не хапала грошай. Першапачаткова выдзелілі толькі 16 мільёнаў савецкіх рублёў, а нам было трэба мінімум 24. Давялося самастойна «прабіваць» іх у розных маскоўскіх кабінетах. Трапіў нават у Дзяржплан СССР і неабходныя сродкі знайшоў. Тыя, хто ведае пра падобныя праблемы, пацвердзіць іх надзвычайную складанасць.

У Вярхоўным Савеце 12-га склікання я працаваў адразу ў дзвюх камісіях. Адна займалася бюджэтам краіны. Другая — будаўніцтвам. Прапанοўваў перайменаваць «Метрапалітэн імя У. І. Леніна» ў «Метрапалітэн імя П. М. Машэрава». На жаль, дэпутаты гэта не падтрымалі.

Калі стваралі знакамітую «антыкарупцыйную» камісію, старшынёй прапанавалі стаць мне. Перамога тады была забяспечана, мяне падтрымлівала пераважная большасць дэпутацкага корпусу.

Аднак ад новай пасады адмовіўся, бо мне не даспадобы займацца расследаваннямі, вышукам, хапаць некага «за руку». Я не бачыў сябе кантралёрам.

Тады Шушкевіч пагадзіўся з прапановай наконт Лукашэнкі. Маўляў, «хай гэты гаварунчык рэальна папрацуе». Чым усё скончылася, мы добра ведаем...

Да слова, калі пазбавіўся пасады сам Станіслаў Станіслававіч, мне прапанавалі заняць яго месца. Такім чынам, я быў тады для Мечыслава Іванавіча Грыба рэальным канкурэнтам, але далей абмеркавання ў камісіях справа не пайшла, што, напэўна, і дазволіла па сённяшні дзень захаваць з Мечыславам Іванавічам ветлівыя прыязныя адносіны.



**З Мечыславам Грыбам і былым суддзёй Канстытуцыйнага суда Валерам Фадзеевым** *(у цэнтры)*

Не адбылося гэта па дзвюх асноўных прычынах.

Першая — гучная пасада ніколі не была для мяне галоўным у жыцці.

Другая. Нягледзячы на тое, што навучанне ў нашай школе было на беларускай мове, у дарослым жыцці я ёю амаль не карыстаўся. Вядома, што ў Грыба таксама былі праблемы ў гэтым сэнсе, але за некалькі месяцаў ён іх вырашыў.

Я ж прынцыпова лічу, што чалавек павінен ведаць беларускую мову яшчэ да таго, як зойме другую ў краіне пасаду. Глыбока перакананы, што добрае валоданне роднай мовай для першых асоб краіны жыццёва неабходнае.

Цікава, што пасля таго, як «за скрыню цвікоў» вызвалілі Шушкевіча, яго месца кароткі час займаў яго намеснік Вячаслаў Кузняцоў, а канкурэнцыю мне ды Грыбу складаў яшчэ і Віктар Ганчар.

Пазней, праз многа год, мы разам са Станіславам Шушкевічам і Генадзем Грушавым хацелі стварыць клуб былых дэпутатаў беларускага парламента. Такіх аб'яднанняў багата за мяжой (у Эстоніі, Латвіі, Літве, Швецыі, Украіне), але зрабіць нешта падобнае ў Беларусі пакуль не атрымалася. Перш за ўсё таму, што ўлады цалкам заблакавалі карысную для будучыні краіны ідэю. Але гэта не азначае канчатковага знішчэння. Калісьці яна абавязкова будзе рэалізавана».

# Сустрэча чацвёртая: **цікавыя зносіны**

«У студзені 1991 года пачаўся чарговы этап маёй службовай кар'еры — з мэра Мінска перайшоў на работу ў Дзяржаўны камітэт па знешніх эканамічных сувязях, які тады месціўся насупраць Нацыянальнага банка краіны, побач (калі хто памятае) са знакамітым «Іспанскім кутком». Прызначылі першым намеснікам старшыні камітэта Уладзіміра Радкевіча.

У гэтай якасці давялося прыняць удзел у розных замежных мерапрыемствах. У тым ліку і ў Варшаўскай канферэнцыі, якая стала сюжэтам для здымка.




**Варшаўскі форум**

Дарэчы, менавіта на гэты перыяд маёй біяграфіі прыпадае і тое, што давялося значна паспрыяць прызначэнню Васіля Севасцьянавіча Ляонава спецыяльным прадстаўніком Беларусі ў Германіі, які займаўся рэформамі сельскай гаспадаркі. Памятаю, Радкевіч не вельмі гэтага хацеў, я ж быў упэўнены, што рэформы жыццёва неабходныя незалежнай Беларусі. А асоба Ляонава адпавядае гэтаму лепш за ўсё.

Потым Кебіч прызначыў Радкевіча адпаведным міністрам, аднак гэта адбылося 16 чэрвеня 1994 года, то бок за тыдзень да першага тура прэзідэнцкіх выбараў. Вынікі іх добра вядомыя.

Так што, як бы гэтага некаму ні хацелася, сцвярджаць, быццам бы гэтае міністэрства стваралася «пад Марыніча», нельга толькі па той прычыне, што яно ўжо існавала. Хаця і намінальна.

Уладзімір Валяр'янавіч Радкевіч быў верным паплечнікам тагачаснага прэм'ер-міністра краіны Вячаслава Кебіча, а я знаходзіўся сярод патэнцыйных апанентаў кіраўніка ўрада.



**У Празе**



**У Браціславе**

Думаю, што з кіраўнікоў беларускай сталіцы мяне па гэтай прычыне і «прыбралі» ў камітэт. Каб быў, так бы мовіць, «пад наглядам». Не здзіўлюся, калі па гэтай жа прычыне ў траўні 1994 года (за месяц да прэзідэнцкіх выбараў) мяне прызначылі амбасадарам у Чэхію, а па сумяшчальніцтву яшчэ ў Славакію ды Венгрыю.

Дарэчы, да Венгрыі я даехаць так і не паспеў — новае прызначэнне. Першы раз пра тое, што прэзідэнт «будзе тэлефанаваць», я даведаўся ад яго тагачаснага памочніка Віктара Кучынскага, які прыехаў на святкаванне 50-годдзя славацкага антыфашысцкага паўстання.

Неўзабаве Лукашэнка сапраўды патэлефанаваў і загадаў тэрмінова прыехаць у Мінск. Я так і зрабіў. Падчас сустрэчы ён прапанаваў узначаліць новае міністэрства, дадаўшы пры гэтым, што дзверы яго кабінета я магу ў будучым «адчыняць нагой».

Раней мне даводзілася кантактаваць са многімі кіраўнікамі Беларусі, у тым ліку і з Пятром Міронавічам Машэравым. Ніхто з іх падобнай фамільярнасці сабе не дазваляў.

Усе размовы пра тое, што такім чынам Лукашэнка «разлічыўся» за адмову ўзначаліць стаўшую для яго прэзідэнцкім трамплінам «антыкарупцыйную» камісію, пакіну для тых, хто ў гэта верыць. Магчыма, так яно і было, але толькі праз асабісты светапогляд самога Лукашэнкі.

Паўтаруся, заўсёды менш за ўсё думаў пра нейкую асабістую выгаду. Я прывык працаваць, займацца канкрэтнай справай, а не збіраць сумнеўнага зместу кампрамат на іншых.

Новая пасада магла значна дапамагчы перш за ўсё Беларусі, а я, не палічыце пафасам, заўсёды імкнуўся прынесці ёй карысць. У тыя гады здавалася, што для работы наступілі надзвычай цудоўныя часы. Маладая незалежная краіна, як кажуць, «з чыстага ліста» ўсталёўвала новыя адносіны з краінамі свету, пачынала і развівала цікавыя і перспектыўныя бізнес-праекты.

Добра памятаю, мая першая паездка ў новай якасці адбылася адразу ў дзве краіны. Вось гэтыя фатаграфіі — напамін пра тую камандзіроўку. Спачатку была Галандыя, потым — перамовы ў Германіі.



**Шчаслівага палёту**



**Галандскія рэкі**

Яшчэ раз нагадаю, што гэта быў перыяд плённых кантактаў з замежнымі інвестарамі. Частка з іх атрымалася. Напрыклад, сумесны праект з Нямеччынай па крэдытнай лініі «Гермес» (рэканструкцыя нафтаперапрацоўчых заводаў), што дазволіла вырабляць бензін больш высокага гатунку, альбо адкрыццё завода знакамітай «Кока-Колы», скуранога завода ў Гатава з італьянскімі інвестыцыямі і інш.



**Нямецкія размовы**



З асобай ветлівасцю нас прынялі Злучаныя Штаты Амерыкі. Візіт у гэтую краіну быў вельмі плённы. Прайшлі кансультацыі ў Прамысловай палаце ЗША, была выказана падтрымка беларускай дзяржаве на самым высокім узроўні.

Даволі інтэнсіўнымі і паспяховымі былі перамовы наконт высокіх тэхналогій з буйнейшымі амерыканскімі кампаніямі у Х'юстане, які лічыцца цэнтрам усёй авіяпрамысловасці Амерыкі.

Менавіта падчас таго візіту і было зроблена маё фота з тагачасным беларускім паслом у ЗША Валерам Цэпкалам (*пасярэдзіне*). Думаю, потым той досвед у значнай ступені паўплываў на яго прызначэнне кіраўніком нашага Парку высокіх тэхналогій.




**У Амерыцы**

На жаль, большасць праектаў «пахавалі». І не толькі амерыканскіх. Французскіх, напрыклад. Буйныя французскія кампаніі жадалі інвеставаць у льняную галіну і нафтаперапрацоўку. Візіт у Францыю быў адным з самых паспяховых. Беларускім пытаннем зацікавіўся нават асабіста французскі прэзідэнт Жак Шырак.

Скончылася ўсё нічым...

Таксама не была рэалізавана ідэя карэйскіх бізнесменаў па будаўніцтву завода аўтамабіляў «ДЭУ» (праект асабіста «заваліў» тагачасны міністр прамысловасці Харлап) і чэшскіх уласнікаў па будаўніцтву аўтазавода «Шкода». Акрамя гэтага, была прыпынена дзейнасць філіяла аўтамабільнага завода «Форд».




**Няздзейснены праект**

На жаль, падобных фактаў можна ўзгадаць яшчэ шмат.

Аднак адзін з іх патрабуе асаблівай увагі. Гутарка пра шлях Беларусі да ўступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. У тыя гады мы былі надзвычай блізкія да гэтай мэты. Можна сказаць, адной нагой ужо былі там. Некалькі паспяховых сустрэч у Жэневе і канферэнцыя ў Сінгапуры — вельмі яскравае таму пацверджанне.

Журналісты нават пачалі пісаць пра блізкую перамогу. Рэферэндум 1996 года перакрэсліў усё, чаго ўдалося дасягнуць.




**Сінгапурскія надзеі**

Аднак адна падзея яшчэ не ёсць тэндэнцыя.

Я спрабаваў давесці ўраду і Лукашэнку, што такія праекты патрэбныя Беларусі, але беспаспяхова. Ён гэтага проста не хацеў. Ужо тады зараджалася дыктатура, і ўпэўніваць у перавагах прыватнай уласнасці і прыходу замежнага капіталу прэзідэнта было ўсё цяжэй.

Асобна хачу зрабіць акцэнт на супрацоўніцтве з Расіяй, хаця ў сённяшніх умовах рабіць гэта вельмі-вельмі цяжка. Пры ўсёй значнасці і важнасці для знешнеэканамічнай дзейнасці розных еўрапейскіх і амерыканскіх напрамкаў, прыярытэт аддаваўся ўсё ж ўсходняму вектару.



**Першыя крокі**

Мяне даволі часта называлі прарасійскім палітыкам. Гэта не зусім так. Правільна казаць пра тое, што я заўсёды быў і застаюся палітыкам прабеларускім. А з усходнім суседам нам проста наканавана будаваць нармальныя адносіны. Як і з усімі астатнімі.

Так, у мяне былі і застаюцца добрыя сувязі са многімі расійскімі палітыкамі і бізнесменамі (напрыклад, з прэзідэнтам Расійскага саюза прамыс-

лоўцаў і прадпрымальнікаў Аркадзем Вольскім альбо алігархам Аляксеем Мардашовым), але трэба разумець, што палітыку краіны вырашаюць не яны, а Пуцін.

Да таго ж ён далёка не ўвесь час падаваўся менавіта такім. Калі мы першы раз убачыліся, ніхто нават уявіць не мог, што гэты чалавек у будучым стане адным з самых ваяўнічых дыктатараў Еўропы. Больш за тое, я цалкам упэўнены ў тым, што тады ні ў каго не было нават сумневаў у яго дэмакратычных арыенцірах.

У 1995 годзе беларуская дэлегацыя, ў складзе якой пашчасціла быць і мне, па запрашэнню тагачаснага мэра Санкт-Пецярбурга Анатоля Сабчака прыехала ў гэты цудоўны горад. Раней мне даводзілася бываць толькі ў Маскве, таму ўражанне ад горада на Няве было непаўторным. Асабліва пасля арганізаванай для нас экскурсіі, якая называлася «Па Пушкінскіх мясцінах». Здымак з Міхаілам Мясніковічам і Уладзімірам Ярмошыным зроблены менавіта тады.



**Сярод прыгажосці**

Наколькі я памятаю, у Анатоля Сабчака было чатыры намеснікі. Уладзімір Пуцін, здаецца, тады быў першым.



**Перад размовай**

Пачатак сустрэчы з ім і стаў сюжэтам для адпаведнага фотаздымка.

Сабчакоўская маладая каманда мне вельмі спадабалася. Потым мы даволі працяглы час ліставаліся, віншавалі адзін аднаго з рознымі святамі. Словам, дасягнулі таго ўзроўню адносін, які называюць нефармальным. Аб чым і сведчыць здымак.



**Усім знаёмыя твары**

На мой погляд, «замуціў» украінскую авантуру Уладзімір Пуцін вельмі дарэмна. Як кажуць — перагнуў палку, выкарыстаў Майдан для таго, каб «отжать» Крым і пачаць расколваць Украіну. Цалкам вар'яцкі крок.

І яшчэ. Беларусі не трэба было так глыбока ўлазіць у балота інтэграцыі і падмяняць славянскае сяброўства поўнай эканамічнай залежнасцю. Калонія не можа быць роўняй метраполіі.

Да таго ж Пуцін — не ўся Расія. Нельга ставіцца да ўсяго рускага як да нечага «каларадскага». Спявак Андрэй Макарэвіч, які стаў сімвалам падтрымкі Украіны, таксама размаўляе на рускай мове і жыве ў Маскве...

А наконт гэтага фота — дакладна не магу прыгадаць, калі яно было зроблена, але вельмі хачу бачыць яго ў кнізе, бо на ім мой добры сябар Віталій Уладзіміравіч Курашчык, які быў беларускім амбасадарам ва Ўкраіне. А па цэнтры — былы кіраўнік Мінскай вобласці Пётр Пятровіч Пётух.



**Размова «на траіх»**

Як вядома, у лістападзе 1996 года ў адстаўку пайшоў кіраўнік нашага ўрада Міхаіл Чыгір. Са ўсяго ўрада яго пратэст тады падтрымаў толькі міністр працы Аляксандр Сасноў.

Я паважаў і паважаю Міхаіла Мікалаевіча, але сам ён ніколі не казаў ні мне, ні іншым пра дэмарш, хаця магчымасцяў такіх хапала. Тыя ж традыцыйныя паседжанні ўрада. Гэта рабілі іншыя, аднак не сам Чыгір. Момант, пагадзіцеся, прынцыповы — іншыя не ёсць сам Чыгір... А шанец тады быў...

Магчыма, гэта супадзенне, а магчыма — і не, але адзін са сваіх першых замежных візітаў ён зрабіў менавіта ў краіну, куды лёс потым накіруе мяне паслом. Маю на ўвазе Латвію.

Дарэчы, потым вядомы Parex Bank заключыў кантракт на выраб для Латвіі 18 беларускіх тралейбусаў.

Акрамя гэтага Латвія вельмі добра купляла беларускія трактары і стварыла два цэнтры іх абслугоўвання: ў Рызе і бліжэй да беларускай мяжы. А ў іх міністэрстве сельскай гаспадаркі нават існаваў спецыяльны аддзел па вывучэнню гэтай тэхнікі.

Цалкам падтрымліваю крок Міхаіла Мікалаевіча і Аляксандра Віктаравіча. Падобных думак, паўтараю, тады прытрымліваліся многія, бо добра разумелі, чым усё скончыцца.

Усе прагнулі перамен, але з большасці арыентаваліся на выбары. У тым ліку і альтэрнатыўныя, якія потым правёў Віктар Ганчар.

Падчас работы ў міністэрстве знешнеэканамічных сувязей мне давялося падпісаць шмат пагадненняў. Падпісаць пад рознымі сцягамі, аб чым сведчаць гэтыя два здымкі. Старадаўнія колеры асабіста мне больш даспадобы, але галоўным ва ўсе часы была толькі КАРЫСЦЬ для Беларусі.



**Бел-чырвона-белы пачатак**



**Чырвона-зялёныя рэаліі**

Калі да рэферэндуму 1996 года мы больш кантактавалі з еўрапейцамі, то потым — з арабамі. Дэмакратычны свет у сэнсе інвестыцый для беларусаў фактычна закрыўся. Менавіта тады і былі зроблены здымкі паспяховых візітаў у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты і Іран.

Думаю, у лагеры Лукашэнкі добра ведалі пра апазіцыйныя настроі ўрада, таму палітычную фронду паступова пачалі «адцясняць».



**Усходні вектар**

Над маёй галавой хмары пачалі згушчацца адразу пасля зыходу Міхаіла Чыгіра. Напрыклад, хадзілі ўпартыя чуткі пра тое, што бліжэйшым часам «Марыніча здымаюць з пасады». Неаднаразова таксама казалі пра хуткі арышт, што ў святле публічных кайданкоў міністра сельскай гаспадаркі Васіля Ляонава не выглядала нечым нерэальным...



**У Іране**

Напэўна, нехта хацеў падштурхнуць да добраахвотнай адстаўкі...

Гэтага не адбылося, але напрыканцы 1998 года міністэрства знешнеэканамічных сувязяў сапраўды расфарміравалі і перадалі ў склад міністэрства замежных спраў.

Безумоўна, перадача нашага міністэрства ў МЗС стала вынікам інтрыг Латыпава, які ў той час пераходзіў з памочнікаў прэзідэнта ў міністры і ўмацоўваў «пад сябе» гэтую структуру. Але яго памкненні НАДЗВЫЧАЙ хацелі падтрымаць і ў прэзідэнцкай адміністрацыі».

# Сустрэча пятая: **жыццёвыя катаклізмы**

«Калі ў мяне пытаюцца, навошта было ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2001 года, я адказваю — бывае, у жыцці чалавеку патрэбна зрабіць галоўны выбар. Я яго зрабіў і ніколі аб гэтым не шкадаваў.

А паўплывала ў першую чаргу тое, што ўбачыў у Эстоніі і Латвіі.

Як кажуць, мы з імі выйшлі з аднаго «балота», якое некалі называлася СССР, то бок стартавалі амаль з аднолькавых пазіцый, аднак гэтыя краіны вельмі хутка абагналі Беларусь у сваім развіцці.

Рыначную эканоміку там пачалі будаваць адразу пасля вызвалення ад Савецкага Саюза і выкладаць яе ў навучальных установах. Тая ж Латвія, напрыклад, вельмі хутка стала галоўным знешнегандлёвым партнёрам Беларусі, абагнаўшы па гэтым паказчыку такіх «мастадонтаў», як Германія і Англія.

Ганаруся, што ў гэтым ёсць і часцінка маёй працы ў якасці беларускага амбасадара. Пацверджанняў падобнай выснове можна прывесці нямала, але я спынюся толькі на адным прыкладзе.

У афіцыйны дзень незалежнасці нашай краіны, то бок 3 ліпеня 2000 года, мне ўдалося прывезці ў Беларусь (дакладней, у Віцебск) усіх акрэдытаваных у Латвіі замежных амбасадараў. Яны змаглі азнаёміцца з работай прыватнага на той час прадпрыемства «Марка» і пагаварыць з яго дырэктарам Марцынавым. На ўласныя вочы пабачыць адно з першых сумесных прадпрыемстваў «Белвест», што стварылі разам з нямецкай «Саламандрай».

Замежным дыпламатам было цікава пабываць у доме, дзе нарадзіўся Марк Шагал, і ў сядзібе вядомага мастака Іллі Рэпіна, паглядзець на чашу амфітэатра, дзе праводзіцца «Славянскі базар». Была, канешне, і нефармальная частка, з якой і захавалася гэтае фота.



**На свежым паветры**

Вельмі хацелася, каб гэтым шляхам ішла і Беларусь, таму я імкнуўся зрабіць усё магчымае, каб за мяжой лепш пра нас ведалі. Гэты здымак — канкрэтнае таму пацверджанне. На адкрыццё ў Рызе вядомай выставы «Бел-Экспа» прыехаў тагачасны кіраўнік урада і мой былы пратэжэ Уладзімір Ярмошын.

Дарэчы, пра такія прыклады вельмі станоўча потым выказалася беларускае МЗС. Маўляў, так і павінны працаваць дыпламаты. Безумоўна, тая паездка крыху падкарэктавала стэрэатыпы ўспрымання за мяжой нашай краіны, але засталася толькі «пясчынкай у моры».



**Афіцыйнае адкрыццё выставы**

Галоўнае — адчуванне свабоды. У іншаземцаў на тварах — усмешкі, у магазінах — чаго толькі няма. У Беларусі ўсё было наадварот. Зноў пачала адраджацца бюракратыя, і «заточана» яна была толькі на рабскае ідалапаклонства, а курс мы абралі вельмі далёкі ад хоць якіх дэмакратычных каштоўнасцей.

Краіна пагружалася ў дыктатуру, якая моцна ўплывала на развіццё эканомікі і эканамічны курс. У беларускім МЗС сталі традыцыйнымі «накачкі» амбасадараў. Мы павінны былі не толькі татальна шукаць грошы, але і хлусіць замежным калегам пра «зніклых», пра таямнічыя смерці патэнцыйных канкурэнтаў Лукашэнкі, такіх, як Генадзь Карпенка.

Смерць апошняга стала для мяне вельмі моцным ударам, бо з ім у мяне былі добрыя, прыязныя адносіны. Мы даволі часта сустракаліся, падоўгу размаўлялі.

Вельмі спрыяў гэтаму збліжэнню наш агульны знаёмы, палітолаг Анатоль Майсеня (на жаль, таксама таямніча загінуўшы).

Калі я пасля ліквідацыі МЗЭС ехаў паслом у краіны Балтыі, Генадзь Карпенка так і сказаў: «Беражы сябе, мы яшчэ разам папрацуем».

Спачатку я ўручыў вярыцельныя граматы ў Рызе, потым у Таліне і Хельсінкі. Паром да Фінляндыі з эстонскай сталіцы ходзіць кожныя паўгадзіны. Вельмі зручна, асабліва калі ўлічыць, што на яго можна заехаць і са сваёй (пасольскай) машынай.

Менавіта ў гэты перыяд адбыліся кардынальныя змены ў маім асабістым жыцці. Каб больш не вяртацца да гэтага пытання, скажу, што з самымі добрымі пачуццямі стаўлюся да маёй першай сям'і, да сыноў Паўла і Ігара, да жонкі Людмілы і сваякоў. Заўсёды з задавальненнем іду з імі на кантакт.



**Сямейнае свята**



**Дзень народзінаў стрыечнай сястры Вольгі** *(крайняя справа)*



**Разам з Людмілай, сынам Паўлам, унукам Захарам і Дзедам Марозам са Снягуркай**

Лёс распарадзіўся так, што з Людмілай мы разышліся і ў маё жыццё ўвайшла Таццяна Баранава. Гэта маё каханне да скону дзён. Дзякуючы ёй на свет з'явіўся яшчэ адзін Міхаіл Марыніч. Малодшы.



**З жонкай Таццянай і сынам Мішам**

Вясной 2001 года былі абвешчаны чарговыя прэзідэнцкія выбары. Я адразу напісаў заяву з просьбай даць адпачынак на ўвесь перыяд выбарчай кампаніі. Аднак атрымалася інакш: мяне банальным чынам адазвалі і ў хуткім часе звольнілі.

Пасля рашэння ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах адносіны калег вельмі змяніліся. Гэта я адчуў даволі востра. Некаторыя нават перасталі вітацца.

Хаця ў мяне была кватэра ў Мінску, па зразумелых прычынах прыходзілася перыядычна жыць і ў Рызе. З Беларусі да нас часта нехта прыязджаў у розныя камандзіроўкі. Ад іх і патыхала нейкім халадком.

Раз і назаўсёды хачу выказацца пра «ўплыў Мясніковіча» альбо некага іншага.

Я дастаткова самастойны чалавек, каб вырашаць свой лёс незалежна ні ад каго. Безумоўна, вельмі хацелася, каб наменклатура мяне тады падтрымала, бо настроі ў кіраўнікоў былі не вельмі спрыяльныя для Лукашэнкі і таму нейкія падставы ў прыхільнікаў «тэорыі змовы» ўсё ж існавалі.

Напрыклад, у выглядзе адпачынку на Рыжскім узмор'і Мясніковіча, які тады кіраваў прэзідэнцкай адміністрацыяй. Асабліва калі ўлічыць, што адбывалася гэта напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, а я, як беларускі пасол, павінен быў з ім кантактаваць...

Аб чым мы размаўлялі, зараз неістотна, бо далей слоў нічога не пайшло...

Дарэчы, пазней менавіта Міхаіл Уладзіміравіч патэлефанаваў мне ў Латвію, і яго галоўны, як модна зараз казаць, мэсідж можна сфармуляваць так: «Навошта табе гэта трэба?»

Па сутнасці, прыняць паўнавартасны ўдзел у выбарах не атрымалася, аднак нават па сустрэчах, якія ў мяне ўсё ж такі адбыліся, магу сказаць упэўнена: шанец перамагчы быў.

На жаль, яго не скарысталі.

У тым, што мяне не дапусцілі да ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах, у першую чаргу вінаватыя тыя, хто кіраваў выбарчым штабам. Мяне элементарна «кінулі» Сечка, Пашкевіч і нейкі Алампіеў. Яны добра ведалі, што да некаторых подпісаў будуць прэтэнзіі, але наўмысна падставіліся. А потым вельмі хутка вярнуліся на месцы сваёй былой працы і «забылі» пра свае «сімпатыі» да рыначнай эканомікі і дэмакратыі.

На жаль, «кінулі» не толькі мяне. Падманулі і тых, хто непасрэдна збіраў подпісы, і тых, хто звязваў з прозвішчам Марыніча шчырую надзею на перамены.

Адкрыта кажу, такой здрады я не чакаў. Крыўда на гэтых людзей у мяне засталася і па сённяшні дзень. І не толькі ў мяне. Няхай ім за свой учынак будзе сорамна перад нашчадкамі.

Самае агіднае, што працавалі ў выбарчым штабе яны зусім не бескарысліва.. Менавіта з-за такіх «дзеячоў» палітыку і называюць бруднай справай...

Хутчэй за ўсё, ім нехта «дапамог».

Расказвалі, што будучы старшыня КДБ Сухарэнка публічна хваліўся, што мяне ніколі не дапусцяць да выбараў.

І ўвогуле. Як і раней, я лічу, што ў нашай апазіцыі можа атрымацца нешта станоўчае толькі ў тым выпадку, калі ёю перастануць «кіраваць» беларускія спецслужбы.

На жаль, у 2001 годзе нічога станоўчага не атрымалася.

Калі Уладзімір Ганчарык стаў адзіным апазіцыйным кандыдатам, я актыўна падтрымаў яго, аб чым сведчаць і здымкі таго часу, якія захаваліся ў сямейным архіве.




**Разам з Сяргеем Калякіным,Паўлам Казлоўскім і Міхаілам Чыгіром**



**З Уладзімірам Ганчарыкам**



**Узгадненне пазіцый**



**Сярод выбаршчыкаў**

Яшчэ падчас знаходжання ў розных уладных структурах (міністэрская і пасольскія пасады) я заўсёды цікавіўся эканамічным развіццём нашай краіны, аднак па зразумелых прычынах быў абмежаваны ў магчымасці выказацца. Усё змянілася пасля публічнага намеру прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах 2001 года. Улада больш не лічыла мяне сваім, а я не лічыў у далейшым магчымым стрымліваць асабістыя эмоцыі.

Мякка кажучы, яны былі не на карысць створанай сістэмы.

Яшчэ ў ліпені 2001 года разам з лідарамі самых буйных арганізацый сацыял-дэмакратычнага і левага кшталту мы заявілі пра стварэнне Канфедэрацыі за сацыяльныя перамены, а адразу пасля тых выбараў я ўзначаліў грамадскае аб'яднанне «Дзелавая ініцыятыва».

Асацыяцыя гэта адстойвала інтарэсы бізнесу, але доўга папрацаваць нам не далі — толькі некалькі год. Аднак і гэтага кароткага тэрміну хапіла, каб зарабіць на міжнародным узроўні салідны аўтарытэт. Колькасць тэматычных семінараў, канферэнцый, форумаў я зараз нават дакладна і не назаву. Баюся памыліцца. Скажу толькі, што іх было шмат. Як і шмат адпаведных

фота. Таму спыню ўвагу толькі на адным з іх, дзе мы разам з вядомым Уладзімірам Карагіным, які доўгі час прафесійна займаецца гэтымі пытаннямі і ўзначальвае сталічны саюз прадпрымальнікаў і работадаўцаў.

Пра тое, што ў эканамічнай сферы патрэбны пэўныя рэформы, тады зразумелі нават тыя, хто лічыўся прыхільнікам улады. У маіх архівах захаваўся ліст, у якім створаная ў Палаце прадстаўнікоў група па эканамічным развіцці краіны на чале з Васілём Хролам звяртаецца да мяне за кансультацыяй.



**Абмеркаванне праблем бізнесу**

Падобныя кантакты ў той час былі не адзінкавымі. Спачатку пытаннямі рэфармавання беларускай эканомікі мы займаліся паралельна з дэпутацкай групай «Рэспубліка», а потым аб'ядналі свае намаганні і стварылі агульнабеларускі грамадскі рух «За дастойнае жыццё». Ідэю падтрымаў Уладзімір Колас, які стаіць на чале Рады творчай інтэлігенцыі, таму разам са мной, дэпутатамі Уладзімірам Парфяновічам, Валерам Фраловым і Сяргеем Скрабцом ён прыняў удзел у адпаведнай прэс-канферэнцыі.



**Падчас прэс-канферэнцыі**



**Размова з Уладзімірам Парфяновічам***(у цэнтры)* **і Барысам Нямцовым**

Вяртаюся да кантактаў з Расіяй. Здымак, які быў зроблены падчас прэзентацыі кнігі Паўла Шарамета і Святланы Калінкінай «Звычайны прэзідэнт», яшчэ раз наглядна дэманструе, што без «расійскага вектара» нам не абысціся. Толькі напрамак, на мой погляд, не павінен быць такім, як зараз. Трэба абраць цалкам дэмакратычны.

Акрамя кантактаў з замежнымі аднадумцамі, некалькі разоў выпала пабываць на лецішчы (недалёка ад Мінска) ў майго сябра, вядомага журналіста Міхаіла Кацюшэнкі, дзе шмат кантактаваў з былым міністрам гандлю Беларусі Пятром Казловым і вядомым міліцыянтам Канстанцінам Платонавым. Мабыць, за намі сачылі, бо вельмі хутка той жа Казлоў ледзь не апынуўся за кратамі.



**З Сяргеем Антончыкам** *(злева)*
**на лецішчы Міхаіла Кацюшэнкі**

Былі сустрэчы і з паплечнікам па Вярхоўным Савеце 12-га склікання, аўтарам знакамітага даклада пра карупцыю ў атачэнні Лукашэнкі Сяргеем Антончыкам, які цалкам падтрымліваў мае ініцыятывы.

Да гэтага ж часу адносіцца і паездка ў Заслаўе, якую зладзіла шведскае дыпламатычнае прадстаўніцтва ў Мінску. На фота я разам з тагачасным намеснікам старшыні партыі БНФ Юрасём Хадыкам і былым кіраўніком беларускага парламента Станіславам Шушкевічам.



**У Заслаўі**

Пазней, калі Пётр Апанасавіч Казлоў трапіў у няміласць і ўзначаліў санаторый «Крыніца», ён імкнуўся дапамагчы мне з аднаўленнем пасля інсульту. Шчыра ўдзячны яму за гэтую высакароднасць.

Нагадаю, «Дзелавая ініцыятыва» пачала сваю работу ў 2001 годзе. Асноўнай нашай дзейнасцю было ўсё, што датычыцца малога і сярэдняга бізнесу. Перш за ўсё — пошук інвестыцый для беларускай эканомікі, то бок мы займаліся тым, чым павінна займацца дзяржава.

На жаль, апошняй гэта было зусім не патрэбна, і ў 2003-м Міністэрства юстыцыі Беларусі вырашыла, што я «незаконна» там кірую. Цалкам лагічная для сучаснай Беларусі рэч. На пачатку новага тысячагоддзя грамадскім арганізацыям стала проста немагчыма нармальна працаваць. Асабліва калі іх дзейнасць не супадала з афіцыйнай лініяй развіцця краіны.

Слова «ініцыятыва» ў нашай краіне набыло негатыўны сэнс...

На пачатку 2004 года «Дзелавая ініцыятыва» арэндавала офіс у Мінску. Я ў той час быў у працяглай камандзіроўцы ў ЗША, і ўлада не прамінула

агідным чынам выкарыстаць гэты момант. Яны «націснулі» на гаспадыню, каб тая адмовіла ў арэндзе. Мае паплечнікі былі вымушаны тэрмінова адтуль з'ехаць. Усю аргтэхніку, у тым ліку і тую, якая была нам перададзена па дамоўленасці з амерыканскай амбасадай у Мінску, прыйшлося перавезці (пакуль не знойдзем новае памяшканне) у мой гараж.

Менавіта гэты факт беларускі КДБ у будучым і выкарыстае, каб абвінаваціць мяне ў «крадзяжы» аргтэхнікі. Я разумеў, што ўсё гэта накіравана не супраць дзейнасці арганізацыі, а супраць мяне асабіста. Як лідара, як чалавека, які ўдзельнічаў у выбарах. Спецслужбы проста шукалі, за што зачапіцца...

Узмацніўся ціск па ўсіх напрамках. Штодзённа я бачыў за сабой сачэнне, у тым ліку і ў замежных камандзіроўках. Праслухоўваліся тэлефоны. У дзяржаўнай прэсе пачалася кампанія па дыскрэдытацыі дзейнасці «Дзелавой ініцыятывы». Арганізацыі не давалі адкрыць свае філіялы ў рэгіёнах. Пад рознымі прычынамі закрываліся нашы офісы.

Толькі ў Мінску за два гады існавання было чатыры пераезды. З неафіцыйных крыніц даведаўся, што ёсць загад мяне «ізаляваць» і рыхтуецца арышт.

У сярэдзіне красавіка 2004 года адбылося таемнае пранікненне ў маю кватэру, адкуль прапалі 25 тысяч долараў ЗША. Замкі былі пашкоджаны, але, нягледзячы на гэта, узбуджаць крымінальную справу міліцыянты не сталі.

Цікава, што гэта адбылося падчас працяглай камандзіроўкі ў Амерыку, куды мяне запрасілі разам з кіраўнікамі асноўных бізнес-арганізацый Беларусі. Падчас той паездкі было зроблена вельмі шмат фота. Адно з іх я і хачу зараз паказаць.



Разам з Аляксандрам Патупам у Амерыцы

Раніцай 24 красавіка 2004 года ў маёй машыне разбілі шкло і выцягнулі адтуль радыёпрыёмнік і сонцаахоўныя акуляры. А вечарам таго ж дня машына, на якой я ехаў, быццам бы «за перавышэнне хуткасці» была спынена спецыяльным падраздзяленнем ДАІ «Страла».

Потым яны спрабавалі даказаць, што я сеў за руль «выпіўшы», але і гэта не атрымалася.

У парушэнне канстытуцыйных норм міліцыянты вырашылі дагледзець мае асабістыя рэчы. Як толькі я пачаў аспрэчваць гэтую спробу, паявіліся супрацоўнікі КДБ, якія брутальна «изъяли» у меня «дыпламат» з асабістымі грашыма. Па гэты дзень 91 тысячу даляраў ніхто мне не вярнуў.

А восьмай гадзіне вечара мяне прывезлі ў Следчы камітэт КДБ. Не дазволілі патэлефанаваць ні сваякам, ні адвакату, што, мякка кажучы, незаконна.

Допыт працягваўся амаль да чатырох гадзін раніцы. Яго здымалі скрытай камерай, а потым урыўкі з адпаведнымі каментарамі паказваліся па Беларускім тэлебачанні.

Затым мяне з КДБ адпусцілі з патрабаваннем прыйсці зноў ў 15.00 наступнага дня, быццам бы для таго, каб вярнуць грошы.

Калі я туды прыйшоў, то пачуў, што частка маіх грошай (41 900 долараў ЗША) быццам бы фальшывая. За гэта мяне і «зачынілі» ў СІЗА КДБ.

У гэты ж дзень адбыўся вобыск на лецішчы і ў гаражы, дзе яны і «знайшлі» амерыканскую аргтэхніку.

Праз тры дні была ўзбуджана крымінальная справа, але пра «фальшывую» валюту там ўжо не ўпаміналася. На працягу васьмі месяцаў мяне трымалі ў СІЗА КДБ і спрабавалі ўзбуджаць розныя крымінальныя справы. І толькі 30 снежня 2004 года, нягледзячы на адсутнасць адпаведных доказаў, я быў асуджаны да пяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Гэта было адно з самых цяжкіх навагодніх святаў для мяне і маёй сям'і.

Па зразумелых прычынах магчымасці фатаграфаваць у мяне тады не было, таму прашу гэты перыяд майго жыцця праілюстраваць здымкамі журналістаў, якія прыходзілі на суд.

Спачатку мяне накіравалі ў «Валадарку», а потым у сумна вядомую Аршанскую калонію. Больш за тыдзень трымалі без лекаў на вельмі цяжкім этапе, а потым на каранціне ў Аршанскай калоніі. Не было лекаў і пасля каранціну. Больш за тое, турэмшчыкі адабралі ўсё, што было прывезена з Мінску.




**Хроніка пакутаў**

Як следства (6 сакавіка 2005 года) — інсульт. Упэўнены, што зроблена ўсё было НАЎМЫСНА, таму няхай гэта будзе яшчэ адной плямай на пагонах людзей, якія так подла дзейнічалі...

Сталічныя спецыялісты-медыкі прыехалі толькі праз тыдзень пасля «ўдару», і мяне перавялі ў мінскую папраўчую калонію № 1, якой больш не існуе. У лістападзе далі другую групу інваліднасці.

12 сакавіка 2005 года ажаніўся з Таццянай Баранавай.

«Вяселле» адбылося ў медычным пункце. Па маёй просьбе з Воршы прыехаў прадстаўнік ЗАГСа.

Мы вымушаны былі пайсці на гэтую фармальнасць, каб дазволілі сустракацца, перадаць мне лекі, што магчыма толькі тады, калі гутарка ідзе пра блізкага сваяка. На Валадарскага ў Таццяны прымалі перадачы і без «штампа ў пашпарце», у Воршы — не.

На жаль, шмат хто ў тыя часы не прыняў наш вымушаны крок, было нямала каментарыяў, непаразумення.

Лукашэнка таксама не праігнараваў гэты факт і ўзгадаў наш шлюб падчас свайго штогадовага звароту да народа і парламента. Маўляў, калі чалавек жэніцца, ні пра якія цяжкасці гаварыць няма сэнсу. Як звычайна, цынічна хлусіў...

Пасля майго вяртання ў «Валадарку» («на бальнічку», як кажуць) там сабраліся свяціла айчыннай медыцыны і разам з турэмнымі ўрачамі распрацавалі «комплекснае лячэнне». У прыватнасці, параілі мне чытаць услых.

Пад канвоем адвезлі ў чацвёртую бальніцу і зрабілі там магнітна-рэзанансную тамаграфію мозга. Стала бачна, як лепш лячыць.

Да таго ж сваякам дазволілі перадаваць неабходныя лекі.

Тыя, хто ведае, што такое інсульт, пацвердзяць — галоўнае не здавацца. Зразумела, ва ўмовах турмы чалавеку даволі цяжка наладзіць паўнавартасную рэабілітацыю — рухацца і працаваць над сабой. Па некалькі разоў на дзень я падымаўся па крутой металічнай лесвіцы, якая вяла да нашай капцёркі. Шмат займаўся ў так званым чырвоным кутку атрада, адціскаўся ад падлогі, «качаў» ногі і рукі, падцягваўся, дзе гэта можна было зрабіць. Словам, даваў нагрузку ўсім мышцам.

Шчыра ўдзячны ўсім, хто змагаўся за маё вызваленне пад лозунгам «Свабоду Марынічу». Прыемна, што сярод іх былі і простыя людзі, і дэпутаты беларускага парламента, аб чым сведчаць здымкі.

Выбачайце сентэнцыю, але калі чалавек трапляе ў складаныя жыццёвыя абставіны, ён сапраўды становіцца надзвычай сентыментальным. Пра тое,




**Змаганне за свабоду**






што адбываецца па той бок турэмных кратаў, я даведваўся з лістоў Таццяны (пераважна), з газет і размоў з адвакатам. Усё гэта было вельмі кранальным, але з большымі эмоцыямі ўспрымалася тое, што бачыў сам і ў чым прымаў удзел асабіста.

І тут я ў першую чаргу хачу назваць Майру Мору. Тады яна ачольвала амбасаду Латвіі, а зараз узначальвае прадстаўніцтва ўсяго Еўрасаюзу. Менавіта спадарыня Мора дамаглася, каб да мене на «Валадарку» дапусцілі паслоў краін ЕС.

А гэты здымак мне асабліва дарагі. Падчас знаходжання ў турме яго надрукавала «Народная воля». Разам з лістом, які напісаў у калонію мой сябра Анатоль Ясевіч. У маладосці мы разам вучыліся ў будаўнічай школе ў Гомелі.


**З Анатолем Ясевічам**

І яшчэ адзін здымак, вельмі сумны. Падчас майго знаходжання за кратамі памёр мой стрыечны брат. Пасля пахавання аднавяскоўцы зрабілі здымак памінальнай трызны і прыслалі яго ў турму.



**Пасля пахавання**

Як вядома, у турме нагледзішся рознага. Напрыклад, як ў адным атрадзе побач з «палітычнымі» жывуць сапраўдныя крымінальнікі — забойцы, наркаманы, гвалтаўнікі. Жудасна, зусім як у сталінскія часы.

Маё УДВ (умоўна-датэрміновае вызваленне) адбылося 14 красавіка 2006 года. З другой спробы. Першапачаткова адпаведная камісія адмовіла, аднак потым (пасля прэзідэнцкіх выбараў) адбылося паўторнае паседжанне. Начальнік калоніі пасля вызвалення нават адвёз мяне дамоў на сваёй машыне.

Напэўна, прыйшоў загад...

Пакуль была такая магчымасць (да інсульту), ліставаліся з Таццянай амаль кожны дзень. Пра палітыку, зразумела, нічога не пісалі, але галоўнае не гэта, а штодзённая маральная падтрымка.

За кратамі вельмі дапамагае разуменне таго, што цябе чакаюць, за цябе змагаюцца. Па вызваленні ўсе яе лісты мне дазволілі забраць з сабой. Да іх дадаліся мае, і зараз мы маем дзве вялікія каробкі «турэмнай хронікі».

Адно з першых, што я зрабіў на свабодзе — спаліў усе турэмныя рэчы. Дзеля гэтага мы з Таццянай спецыяльна ездзілі ў лес пад Мінскам. Здымак зроблены якраз тады.



**Ачышчальны агонь**

Поўнай рэабілітацыі, натуральна, ў турме не магло быць, таму я працягнуў займацца на свабодзе — распрацоўваў руку, выпраўляў маўленне. Пасля вызвалення мяне запрасілі на рэабілітацыю ў Германію. Прайшоў клінічнае абследаванне ў Берліне і Гамбургу, у гэтым вельмі дапамагаў чалавек, які ведаў нашу мову і крыху разбіраўся ў медыцыне. Тая рэабілітацыя працягнулася два тыдні.

Шчыра кажучы, апасаўся, што не выпусцяць за мяжу. На шчасце, аказалася дарэмна.

Пасля таго, як я больш-менш аднавіўся, актыўнай палітыкай ужо не займаўся, хаця час ад часу мяне і запрашалі на розныя апазіцыйныя мерапрыемствы, накшталт устаноўчага з'езду Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, куды ў студзені 2009 года паклікалі ў якасці ганаровага госця.



**З былымі кандыдатамі ў прэзідэнты Аляксандрам Казуліным і Міколам Статкевічам** *(справа)*

Дарэчы, шмат гадоў таму менавіта з Міколам Статкевічам, разам з шэрагам партый і грамадскіх арганізацый левага накірунку, мы стварылі беларускую філію добра вядомага Еўрапейскага руху і па чарзе былі сустаршынямі.

Еўрапейскі рух сфарміраваўся яшчэ да таго, як узнік Еўрасаюз, і стаў першым крокам інтэграцыі еўрапейскіх краін, своеасаблівай глебай будучага ЕС.

Амаль адразу пасля вызвалення я ездзіў у Амстэрдам на кангрэс гэтай арганізацыі, які быў прысвечаны 60-годдзю са дня стварэння гэтай структуры.

З тагачасным кіраўніком спадаром Крёнерам у мяне склаліся амаль сяброўскія адносіны. Ён нават прыязджаў ў Мінск. Наведаў Нацыянальны мастацкі музей, сустракаўся з былым спікерам Станіславам Шушкевічам, старшынёй Рады беларускай інтэлігенцыі Уладзімірам Коласам, вядомым філосафам і метадолагам Уладзімірам Мацкевічам, з якім у добрых адносінах мой сын Ігар.

У той жа час я даслаў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Гэтае змаганне было істотным не толькі для мяне і маёй сям'і. Я жадаў паказаць іншым, наколькі важна змагацца за свае правы. Чатыры гады спатрэбілася на працяглую перапіску і на тое, каб атрымаць доўгачаканае рашэнне. У кастрычніку 2010 года Камітэт прызнаў мяне ахвярай палітычнай расправы.

У гісторыі Беларусі гэта першы прэцэдэнт, калі Камітэтам па правах чалавека ААН палітычны зняволены прызнаецца ахвярай і пацвярджаецца прымяненне ў дачыненні да яго катаванняў.

Навіна была вельмі радаснай, але прыйшла яна ў вельмі цяжкія часы.

11 студзеня 2010 года, амаль апоўначы, ў мяне здарыўся другі інсульт. За суткі да 70-годдзя.

Сумна, але пра той юбілей амаль ніхто не ўспомніў (у незалежнай прэсе не было ніводнага радка), таму і пра інсульт ніхто спачатку не ведаў.

Ён быў настолькі моцным, што лекары не давалі якіх-небудзь рэальных шансаў, крыху нават здзіўляліся маёй апантанасці і волі. Дзякуй Богу, побач тады аказалася Таццяна, якая вельмі дапамагла зноў вярнуцца да нармальнага жыцця. Гэта дзякуючы ёй праз параўнальна кароткі час мне ўдалося пабываць на форуме ў Рызе. Напэўна, апошнім ў маім жыцці...



**У Рызе**



Там і быў зроблены здымак, дзе я разам з былой жонкай «знікшага» бізнесмена Анатоля Красоўскага Ірынай, першым кіраўніком незалежнай Беларусі Станіславам Шушкевічам і экс-намеснікам міністра замежных спраў Беларусі Андрэем Саннікавым, у выбарчай кампаніі якога я адказваў за эканамічны блок.

У тым, што Андрэй «пайшоў у прэзідэнты», ёсць і мая лепта. Не буду сцвярджаць, што гэта стала галоўным, аднак... Яшчэ за год да снежня 2010 года, калі прайшлі прэзідэнцкія выбары, мы неаднаразова кантактавалі з Андрэем, і я заўсёды прынцыпова быў за тое, каб ён паспрабаваў пазмагацца з Лукашэнкам, то бок ажыццявіў тое, што не выпала мне ў 2001 годзе. Шанец (вельмі добры) у яго быў.



На мітынгу

У выбарчай кампаніі Андрэя Саннікава актыўны ўдзел прымаў не толькі я, але і мой сын Павел. На адным з мітынгаў мы і сустрэліся, аб чым сведчыць здымак, дзе паміж мной і сынам стаіць кіраўнік Свабоднага тэатра Мікалай Халезін.

У тыя часы (акрамя заняткаў палітыкай) я зрабіў акцэнт на сямейным жыцці. 26 лютага 2007 года нарадзіўся Міхаіл. Адбылося гэта ў Літве, у Вільнюсе, таму што наконт Беларусі ў нас былі пэўныя сумненні. І недарэмна, бо для спецслужбаў зрабіць нешта кепскае сёння лічыцца «вышэйшым пілатажам».

Беларускі ўрач падказала літоўскую прыватную клініку, дзе ўжо нарадзілася некалькі нашых суайчыннікаў, і мы паехалі.

Зіма, моцны мароз. За мяжой, калі падчас родаў усё праходзіла нармальна, выпісваюць ужо праз два дні. Мы вырашылі таксама рызыкнуць і апошнім днём зімы ўжо вярталіся ў Беларусь. Я тады быў, натуральна, за рулём, і ніхто нават уявіць не мог, што ўжо праз некалькі год такія паездкі стануць немагчымымі...



Работа-адпачынак

На той час новага лецішча ў нас яшчэ не было (сваё пасля разводу з Людмілай я пакінуў ёй), аднак вельмі не хацелася, каб першыя месяцы жыцця майго сына праходзілі, як кажуць, на асфальце, таму даволі часта вазілі немаўля ў лес. Ён у калясцы спаў, а я працаваў.

Бог падараваў мне гэты цуд ва ўзросце далёка немаладым. Я вельмі ўдзячны яму за гэта. Як і Таццяне. Ёй жа лёс даў вельмі цяжкае выпрабаванне — трохгадовы сын і другі інсульт мужа.

Як толькі я больш-менш аднавіўся, мы змаглі ажыццявіць мару, якая нарадзілася даволі даўно. У пачатку 2011 года ўсёй сям'ёй паехалі ў аўтамабільнае падарожжа па Еўропе. Паказалі Мішу больш за 15 краін.

А крыху раней мы здзейснілі яшчэ адну мару — набылі лецішча, пачалі яго перабудоўваць. На жаль, менавіта на гэты час прыйшоўся мой другі інсульт, і Таццяне многае давялося дарабляць самой. Як чалавек, які шмат чаго пабудаваў ў жыцці, магу засведчыць, што яна цалкам валодае ўсімі адпаведнымі талентамі.



**На лецішчы**

Аднаўленне пасля другога інсульту ішло не такім тэмпамі, як бы гэтага хацелася. Пасля ўсіх магчымых медыцынскіх працэдур у Беларусі вынік быў не надта станоўчым. Другі інсульт пашкодзіў такія зоны галаўнога мозгу, што шанцаў на яўны прагрэс сёння амаль няма.

У гэты ж час у маё жыццё ўвайшоў цудоўны доктар-ігларэфлексатэрапеўт Бей Ін Сар. Унікальны чалавек з незвычайнай біяграфіяй і фантастычнымі талентамі. Мы сталі не толькі партнёрамі па схеме «доктар — пацыент», але і добрымі сябрамі. Таму я хачу, каб успаміны былі завершаны менавіта здымкам з ім».



**З Бей Ін Сарам**

# Чорна-белая памяць

Падчас памінальнай трызны па Міхаілу Марынічу адзін з яго былых калег прапанаваў устанавіць на магіле помнік па таму тыпу, які зроблены для Мікіты Хрушчова. Маўляў, да 2001 года жыццё Марыніча было белым, а пасля — чорным.

Цалкам не згодны з такім падзелам, бо ён задавольвае толькі тых, хто прызвычаіўся прагінацца перад любым начальствам і заўсёды трымаць нос па ветры.

Зрэшты, мімікрыя падобных людзей добра вядома і тут няма нічога новага, бо ўсе разумеюць, што такім чынам яны апраўдваюць уласную бесхрыбетнасць...

Але — не будзем пра сумнае. Галоўнае, што побач з Міхаілам Марынічам да апошняга дня заставаліся годныя, надзейныя, САПРАЎДНЫЯ сябры, пра якіх трэба распавясці асобна.

І пачаць хочацца менавіта з Сяргея Фокіна, які зараз працуе ў адной з медыцынскіх устаноў сталіцы. Таго самага, з якім Марыніч сядзеў за аднои партай у Вышэйшай партыйнай школе і з якім яны сябравалі аж з 1983 года.

Каб было зручней расказваць, ёсць сэнс пачаць з амаль сучаснага фота.



**Злева направа: Сяргей Фокін, Свен-Олаф Невіак (прафесар, кансультант Міністэрства эканомікі Германіі), Міхаіл Марыніч**

У Сяргея Паўлавіча Фокіна вельмі цікавы радавод. Многія з яго продкаў былі рэпрэсаваныя савецкай уладай, а дзед, які быў праваслаўным святаром, нават расстраляны ў сумнавядомым Бутава. Зразумела, усе сваякі (асабліва ў камуністычныя гады) аб гэтым маўчалі.

Сяргея Фокіна маўчанне гэтае моцна стаміла. У 2001 годзе ён пачаў працаваць у апальнай «Дзелавой ініцыятыве», а з Міхаілам Апанасавічам Марынічам сябраваў да апошніх дзён яго жыцця. І ні ад каго не хаваў гэтага сяброўства...

Як і Анатоль Іванавіч Ракіцкі. Напэўна, ён ведаў Марыніча даўжэй за ўсіх астатніх, бо паходзіць з той самай вёскі Навасёлкі, куды некалі ў школу хадзіў Міхаіл Апанасавіч і дзе яны вучыліся ў розных класах.

Пазней абодва выправіліся «ў вялікі свет» і сустрэліся зноў толькі ў сярэдзіне 90-х. Марыніч быў міністрам знешнеэканамічных сувязяў, а Ракіцкі кіраваў бранятанкавай службай Узброеных сіл Беларусі. Разам рабілі так, каб скарачэнне арміі (перш за ўсё матэрыяльнае) прыносіла беларускай дзяржаве плён.

На жаль, падобныя якасці аказаліся непатрэбнымі новай уладзе, таму з пачаткам новага тысячагоддзя яны зноў апынуліся разам. Абодва заўсёды імкнуліся быць чэснымі перад уласным сумленнем.

Трэцім сапраўдным сябрам Міхаіла Апанасавіча Марыніча без перабольшванняў можна назваць Уладзіміра Сяргеевіча Іскарцава. І не толькі таму, што той два гады быў яго памочнікам у Мінгарвыканкаме ў вельмі напружаныя часы будаўніцтва Мінскага метрапалітэна. Іскарцаў стаў хросным бацькам яго малодшага сына Міхаіла.

Вяртаючыся да асабістага жыцця Марыніча, я яшчэ раз хачу падкрэсліць, што не жадаю тут бачыць нейкіх «падзелаў». Усе ў роўнай ступені самыя блізкія герою гэтай кнігі людзі, з усімі ён быў шчаслівы.


З сынам Ігарам



З сынам Паўлам



З сынам Міхаілам



З жонкай Людмілай



З жонкай Таццянай

Таксама асобна хочацца сказаць і пра супрацоўнікаў бізнес-цэнтра «Імагуру», найперш пра Анастасію Хамянкову і Яўгена Пугача, якія асабіста дапамагалі аўтару. Шчыры ім дзякуй!

Удзячны таксама за дапамогу Паліне Лысюк і Васілю Вешнякову!

Тыя, хто працуе ў жанры нон-фікшан, ведаюць, што калі кніга робіцца да нейкага юбілею, даволі часта абмяркоўваецца склад людзей, ад якіх хацеў бы бачыць віншаванні сам юбіляр. Падобнае зрабілі і мы з Міхаілам Апанасавічам.

На жаль, па зразумелай прычыне ад віншаванняў прыйшлося адмовіцца. Размешчаныя ніжэй успаміны былі запісаны ўжо пасля зыходу Марыніча з жыцця. А пачаць хочацца са слоў былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра.



**Міхаіл Чыгір,**
**былы кіраўнік беларускага ўрада (1994-1996)**

*«Я ведаў яго яшчэ з часоў работы ў Мінгарвыканкаме, але бліжэй пазнаёміўся ўжо тады, калі ён стаў міністрам знешнеэканамічных сувязяў.*

*Яго погляды на мадэрнізацыю знешнеэканамічнай дзейнасці, мякка кажучы, не супадалі з лукашэнкаўскімі, і ён гэтага абсалютна не хаваў. А калі яго прызначылі амбасадарам, усё стала яшчэ больш відавочна.*

*Аднойчы, падчас нашай тэлефоннай размовы (я ўжо быў у адстаўцы, а ён яшчэ дзеючым чыноўнікам), Марыніч пачаў надзвычай жорстка крытыкаваць існуючае становішча. Я здзівіўся, што ён робіць гэта па тэлефоне, і спытаў: «Не баішся?» Ён адказаў: «Колькі можна баяцца! Нешта трэба рабіць».*

*Міхаіл Марыніч быў выхаваны савецкай сістэмай, але вельмі хутка змяніў свае погляды. Для мяне было цалкам зразумела, што доўга ён там не пратрымаецца. Так і адбылося».*



Працоўны кабінет

Словы Міхаіла Мікалаевіча Чыгіра даволі красамоўна пацвярджае фота. Міхаіл Апанасавіч Марыніч быў адзіным (!!!) беларускім амбасадарам, у кабінеце якога не было партрэта дзеючага прэзідэнта...

Як вядома, кабінет гэты ў свае часы быў у Рызе, і менавіта з Рыгі паходзіць жанчына, якая зрабіла для Міхаіла Марыніча больш за некаторых мужчын.

Майра Мора, амбасадар, кіраўнік Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі:



Майра Мора

*«У той час, калі Міхаіл Апанасавіч прадстаўляў інтарэсы Беларусі ў Латвіі, адносіны Беларусі з краінамі Еўрапейскай супольнасці ўжо сур'ёзна ўскладніліся, але ён заўсёды карыстаўся бязмежнай павагай і даверам сваіх калег па дыпламатычным корпусе. Пазнаёміліся мы з Міхаілам Апанасавічам у красавіку 2005 года пры абставінах, якія зусім не спрыялі нязмушанай гутарцы: разам з літоўскім калегам атрымалі дазвол наведаць яго ў зняволенні, і тады я ўбачыла, што да яго ставіліся з пашанай і тыя, хто мусіў паводле сваіх службовых абавязкаў яго ахоўваць.*

*Падчас той нашай першай размовы з Марынічам у мяне склалася ўражанне, што маштаб асобы гэтага чалавека большы за любую пасаду, якую ён займаў ці мог бы займаць, а яго характар мацнейшы за любыя абставіны».*

А вось што напісаў другі адметны для беларускай гісторыі чужаземец.

*«На прафесійную біяграфію Міхаіла Марыніча аказалі ўплыў вялікія паваротныя падзеі ў Еўропе, што ў апошнія дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя прывялі да краху камуністычных мадэляў грамадства і дзяржавы. Яны паклалі пачатак цяжкім пераходным працэсам, стварылі новыя рамачныя ўмовы для народаў, дзяржаў і грамадзян.*

*Міхаіл Марыніч прымаў актыўны ўдзел у працэсах гэтай трансфармацыі. Напрыклад, у падрыхтоўцы Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Еўрапейскім саюзам і Беларуссю, якое было падпісана 6 сакавіка 1995 года ў Бруселі. Яно павінна было садзейнічаць руху яго краіны да сацыяльнай рыначнай эканомікі і плюралістычнага дэмакратычнага грамадскага ладу.*

*Шкада, але нічога падобнага не ажыццявілася...*

*Вылучыўшы сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта падчас выбараў 2001 года, Міхаіл Марыніч кінуў выклік Аляксандру Лукашэнку, чый палітычны гнеў выліўся ў пераслед, горкія гады турэмнага зняволення.*



**Ханс-Георг Вік, пасол, кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі (1997-2001)**

*На жаль, ў апошнія гады я не змог прыняць удзел у жыцці пана Марыніча і яго сям'і.*

*Фізічна ён пакінуў нас назаўжды, але заўсёды будзе жыць ў памяці. Памяці яго блізкіх, сваякоў і сяброў. Да іх маю гонар аднесці і сябе».*

Думаю, лагічным працягам гэтых слоў будзе тое, што знакаміты беларускі паэт і палітык Уладзімір Някляеў з нагоды смерці Міхаіла Апанасавіча Марыніча напісаў у сваім фэйсбуку і ветліва дазволіў выкарыстаць для гэтай кнігі.

*«У цяперашнім нашым жыцці, у якім мала хто паважае не сябе самога, а некага іншага, цяжка займець павагу. І ўсё ж Міхаіл Марыніч займеў яе, яго паважалі многія. Бо было за што паважаць.*



**З Уладзімірам Някляевым**

*Некалі ён меў рэпутацыю аднаго з самых талковых чальцоў беларускага ўраду. «Асновай новай стратэгіі могуць стаць толькі эканамічныя рэформы!» — паўсюль заяўляў Марыніч, і хутчэй за ўсё менавіта праз гэта (бо Лукашэнка не збіраўся нічога рэфармаваць) быў пазбаўлены месца ўпраўленца і сасланы ў дыпламаты.*

*У рангу пасла Беларусі ў Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі ён прыехаў у Хельсінкі. Мы спаткаліся. Адносіны ў нас даўно ўжо скላліся даверлівыя — і ён распавёў мне сцэнар прэзідэнцкіх выбараў 2001-га года.*

*Сцэнар, калі коратка, быў такі: перад выбарамі ўрад падаваў у адстаўку — і нехта з ураду (Марыніч разлічваў, што кіраўнік) вылучаўся кандыдатам у прэзідэнты. Гэтакі наменклатурны пераварот.*

*Па тым, як Міхаіл Апанасавіч інтэлігентна заікаўся, называючы прозвішчы некаторых сваіх «паплечнікаў», ён быў далёка не ўпэўнены, што сцэнар ягоны можа быць рэалізаваны. Але гатовы быў рызыкаваць — і спытаў, што я пра гэта думаю? Калі падтрымліваю, дык ці магу вярнуцца ў Беларусь, каб арганізаваць падтрымку нацыянальнай інтэлігенцыі? Ён сам*

*быў тыповым (савецкім) інтэлігентам і меркаваў, што інтэлігенцыя — вялікая сіла.*

*Ну вось што на такое можна было сказаць? Ведаючы тых, на каго ён разлічваў як на паплечнікаў... Я сказаў, што заўсёды сімпатызаваў яму не толькі за ягоныя прафесійныя якасці, але й за чыста чалавечыя — найперш за рамантызм.*

*Помню, як ён усміхнуўся сваёй летуценнай усмешкай, дапіў каву, паківаў: «Так... Я разумею, пра што ты і пра каго. Але многія з іх мае сябры. Яны хочуць таго ж, чаго і я. Каб краіна рэфармавалася, змянялася, развівалася. І я ведаю, што яны — людзі слова».*

*Ведаў ён, аказалася, далёка не ўсё і не пра ўсіх.*

*У Беларусь я вярнуўся, але наменклатурнага перавароту не адбылося. Ніхто з ураду ў адстаўку не падаў. Марыніч сам паспрабаваў зарэгістравацца кандыдатам у прэзідэнты, а потым Лукашэнка «зарэгістраваў» яго ў турму.*

*Калі яго судзілі, зневажалі, выраблялі з яго злачынцу, я ўсё чакаў, што тыя, з кім ён працаваў, сябраваў, хоць штосьці зробяць, скажуць нешта ў ягоную абарону. Ніхто з «людзей слова» ніводнага слова не сказаў. Тады я напісаў пра гэта — і адзін з іх, наш агульны знаёмы, патэлефанаваў крыўдліва: «Табе добра казаць».*

*Мне горка казаць...»*

Хаця я таксама прытрымліваюся вельмі падобных поглядаў, дзеля аб'ектыўнасці трэба адзначыць, што сам Марыніч афіцыйна трымаўся супрацьлеглых ацэнак. Маўляў, ніякай наменклатурнай фронды не існавала...

Сёння ўжо немагчыма высветліць, была такая пазіцыя цалкам адпаведнай рэчаіснасці альбо нехта настойліва параіў гаварыць менавіта так...

Немагчыма пацвердзіць альбо абвергнуць і шмат чыю ўпэўненасць ў тым, што шлях у лепшы свет Марынічу пралажыў нехта іншы...

Гэта толькі здагадкі, але тое, што мне расказаў адзін з нядаўніх сяброў Міхаіла Апанасавіча Ігар Гураў, даволі красамоўна іх пацвярджае.

Ігар — былы вайсковец, які пасля звальнення ў запас працаваў у Савеце Міністраў і гандляваў лішкамі зброі былога Савецкага Саюза на карысць беларускай дзяржавы, а не так, як гэтага хацелі «пэўныя колы». За што і апынуўся за кратамі «Валадаркі», а потым атрымаў дзевяць год зняволення.

Аднойчы ў камеру, дзе ён чакаў свой прысуд, быў змешчаны Міхаіл Апанасавіч Марыніч. Былы міністр і амбасадар нічым не адрозніваўся ад іншых

патэнцыйных «зэкаў», чым вельмі хутка заслужыў сярод іх павагу. Паважалі і за тое, што шмат працаваў, заўсёды быў жыццярадасны і ўважлівы да іншых.

30 снежня 2004 года пасля ўсіх безвыніковых касацый Марыніча адправілі ў Воршу. Камера зладзіла (наколькі магчыма ў тых умовах) святочныя «провады». Марыніч быў спакойны і нават жартаваў. І галоўнае — ён быў цалкам здаровы. Таму, калі праз некалькі тыдняў дайшлі чуткі пра інсульт, усіх гэта вельмі моцна шакіравала.

Усе (не толькі ў камеры) зразумелі, хто стаіць за гэтымі «метамарфозамі» , а некаторыя ўпэўненыя — на гэтым «яны» не спыніліся. Пакуль не наступіла 17 кастрычніка 2014 года...

...Калі ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя стала вядома, што Марыніч будзе новым начальнікам Уладзіміра Іскарцава, памочніка намесніка старшыні Мінгарвыканкама, адзін з яго сяброў, былы падначалены Марыніча, сказаў: «Табе моцна пашанцавала».

Зараз без перабольшвання можна сказаць, што пашанцавала ўсім, хто ў сваім жыцці сутыкаўся з Міхаілам Апанасавічам Марынічам, і хай пра гэта заўсёды нагадвае малюнак Хазры Асадулаева.



Бог возвратит нам эти книги.

Наше будущее не измеряется временем.

Нам нужно пережить этот беспредел без потерь, чтобы победить.

Мы не имеем права делать иначе. У нас нет выбора. Мы должны бороться.

Мы идем к нашему будущему! И приближаем его каждый день! И делать будем усердно.

Это невозможно, этим нужно жить.

Наверное, только самые близкие друзья, знакомые могут чувствовать, что это такое.

Счастлив и горд, что мы вместе и едины.

Мы не одиноки. Люди тоже знают и верят.

Нас не сломать. Мы вместе и мы победим!

Спасибо всем вам

Марина [illegible]

# Змест

Первая часть названия «Непокоренный Михаил Маринич» — из моего очерка в газете «Новое время», который был напечатан 3 февраля 2012 года, а вторая — «История в фото»— добавилась во время работы над этой книгой и целиком совпадает с ее содержанием.

К сожалению, 17 октября 2014 года Михаила Афанасьевича Маринича не стало. Он не успел увидеть эту книгу, но успел прожить жизнь, достойную того, чтобы о ней знали другие.

# Авторский пролог

«В жизни случаются моменты, когда человек начинает переосмысливать свою жизнь, как бы листать страницы написанной уже книги. Это дает силы и энергию человеку идти по жизни дальше. Книгу жизни хочется читать не в одиночестве, а с потомками, но иногда это невозможно. Так случилась и со мной за решеткой».

Это письмо своему среднему сыну Павлу Михаил Маринич написал из Оршанской колонии №8.

Предлагаемая вашему вниманию книга — развернутый вариант этого письма, которое адресовано всем нам.

Первоначально она писалась к 75-летию Михаила Афанасьевича, но когда книга была почти готова, герой скоропостижно ушел из жизни, и автору пришлось внести определенные изменения, чтобы превратить обычные воспоминания в реквием.

Однако изменения были только «косметическими», ведь, на мой взгляд, перед нами тот случай, когда история жизни одного человека почти совпадает с историей целой страны. Это первое.

Второе в том, что добиться в жизни чего-то значительного может только тот, кто умеет преодолевать трудности. И учиться — настойчиво, целеустремленно и, как говорят поэты, вдохновенно.

Третье. М. А. Мариничу было что терять. Не хочу чем-то обидеть остальных, но, по моему принципиальному убеждению, искреннего уважения заслуживают прежде всего те люди, которые ради общих целей отказываются от вещей личных, очень привлекательных, как то карьера, богатство, благополучие. И главное — здоровье.

Несмотря на большое количество фото, я умышленно не помогал (когда не было необходимости) найти на них героя этой книги. Оставлю эту радость читателям. Отмечу только, что во все времена Михаил Афанасьевич Маринич был очень узнаваем. Даже когда его звали просто Мишей.

И еще. Наверное, эта книга не состоялась бы без самоотверженной помощи родных Михаила Афанасьевича и его многочисленных друзей. Искреннее им авторское — СПАСИБО!

